6 чэрвеня 2014 | № 22 (391)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ



ISSN 2218-2144



# Мяжа на замку

## Абароназдольнасць і візавая лібералізацыя, турызм і кіназдымкі на выспах Заходняга Бугу



Сяргей ПУЛЬША

Нарада Аляксандра Рыгоравіча са старшынёй дзяржаўнага памежнага камітэта Леанідам Мальцавым выклікае дзіўнае ўражанне. Яны паразмаўлялі пра кіно. Нібыта кіраўнік Беларусі збіраецца перарабіць дзяржаўную мяжу ў вялікую здымачную пляцоўку. Але ці так яно на самай справе?

Як паведамляе прэс-служба Лукашэнкі, кіраўнік дзяржавы паразмаўляў з Мальцавым і дзяржсакратаром Савета бяспекі Беларусі Аляксандрам Мяжуевым. Найперш Лукашэнка пацікавіўся, як памежнікі справіліся з наплывам турыстаў на Чэмпіянат свету па хакеі і ці трэба на ўзроўні кіраўніка дзяржавы прымаць нейкія захады па ўдасканаленні памежнай службы. Мальцаў адзначыў, што ў памежнікаў «усё акэй», але няма мяжы да ўдасканалення. «Сістэма працуе, яна надзейная, але жыццё ідзе, і любая сістэма патрабуе ўдасканалення», — заявіў Мальцаў.

А потым Аляксандра Рыгоравіча панесла. Ён заявіў, што мае намер азнаёміцца з развіццём турыстычнага патэнцыялу беларускіх выспаў на рацэ Заходні Буг. «Гэта вельмі цікава для людзей. З пункту гледжання патрыятычнага, ваенна-патрыятычнага выхавання для нас гэта вельмі важна», — сказаў Лукашэнка. Пры гэтым ён адзначыў, што тры гады таму старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар абяцаў прывесці ў парадак адпаведныя тэрыторыі і забудовы, якія на іх знаходзяцца, — катакомбы, збудаванні і руіны, арганізаваць турыстычныя сцежкі.

Як праінфармавалі ў прэс-службе, на думку Лукашэнкі, тыя месцы можна было б задзейнічаць для кіназдымак. «Там з задавальненнем будуць здымаць фільмы, таму што лепшага месца для натуральных здымак не знойдзеш», — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

Насамрэч рэальных праблемаў з мяжой сапраўды шмат. Па-першае, не можа не турбаваць досвед Украіны і ўсходняй агрэсіі. У нас няма мяжы з Расіяй — Аляксандр Рыгоравіч сам выкопваў памежны слуп на Смаленскім напрамку. Зараз выявілася, што гэтае рашэнне было калі не памылковым, то значна ўскладніла абароназдольнасць «сінявокай». Па-другое, сапраўды цікава, як памежнікі справіліся з наплывам заўзятараў на Чэмпіянат свету і які досвед з гэтага можна скарыстаць у павелічэнні замежнага турызму ў Беларусі. І, па-трэцяе, гэты ж досвед будзе вельмі цікавы ў тым плане, што зараз Беларусь і Еўрапейская камісія працягваюць перамовы па спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС.

Дзве праблемы складаюць дылему: як спрасціць візавы рэжым, не страціўшы ў памежным кантролі і абароназдольнасці Беларусі? Сітуацыя ўскладняецца тым, што наўрад ці спрашчэнне візавага рэжыму можна ажыццяўляць, не запусціўшы яшчэ адну праграму — праграму малога памежнага руху (МПР) паміж Літвой і Польшчай.

Беларусь усяляк тармозіць гэты працэс, спасылаючыся на досвед МПР з Латвіяй: памежныя пераходы не здольныя прапусціць усіх жадаючых.

«Калі ў памежным руху з Латвіяй удзельнічае каля 200 тысяч чалавек, то з Літвой патэнцыйных удзельнікаў толькі з літоўскага боку — 800 тысяч і яшчэ 600 тысяч — з беларускага. Калі мы сёння інтэнсіўна запусцім паток праз мінімальную памежную інфраструктуру, мы створым вялікія праблемы», — тлумачыць пасол Беларусі ў Літве Аляксандр Кароль.




**Асноўная праблема памежных структураў — «кадравы голад»**

Абароназдольнасць і візавая лібералізацыя — гэта два галоўныя пытанні для беларускіх памежнікаў, лічыць кіраўнік аналітычнага праекта Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў. Прычым другое крыху менш важнае за першае. «Нейкіх спецыфічных выклікаў зараз на беларускай мяжы і ў беларускіх памежнікаў няма. Асноўная праблема памежных структураў, як, дарэчы, і амаль ва ўсіх дзяржаўных структураў, — «кадравы голад». На мяжы фізічна не хапае людзей, а тыя новыя кадры, якія туды прыходзяць, недастаткова падрыхтаваныя», — адзначыў Паротнікаў.

Канешне, спрашчэнне візавага рэжыму з ЕС, па словах Паротнікава, «пытанне палітычнае, а не памежнае». Аднак, у выпадку ўвядзення МПР з Польшчай і Літвой недахоп кадраў стане ўвогуле крытычным.

«Я думаю, што кіраўнік дзяржавы і кіраўнік памежнага камітэту не маглі ігнараваць сітуацыю на расійска-ўкраінскай мяжы. Бо раней, у перыяд кіраўніцтва памежнікамі Ігара Рачкоўскага, беларуская мяжа зазнала моцныя перамены: прыярытэт быў зменены з «сілавой» абароны мяжы на правядзенне «палітычна-міліцэйскіх» мерапрыемстваў: пропуску праз мяжу, выяўленне мігрантаў, наркатрафіку і гэтак далей. Лічылася, што наўпроставых боесутыкненняў на беларускай мяжы быць не можа. Але досвед Украіны паказаў, што магчыма ўсё. Таму я не выключаю, што пэўным чынам абмяркоўвалася і магчымасць вяртання да «савецкай» канцэпцыі памежных войскаў, якія былі б здольныя да баявога супрацьстаяння», — лічыць Паротнікаў.

Дадае асаблівасці гэтай размове і факт прысутнасці на сустрэчы дзяржсакратара Савета бяспекі спадара Мяжуева. Натуральна, што гаворка ішла пра абароназдольнасць, а не пра кіно, інакш замест Мяжуева на ёй бы прысутнічаў дырэктар «Беларусьфільма» Алег Сільвановіч.

А на наступны дзень, «у адпаведнасці з даручэннем кіраўніка дзяржавы», Дзяржсакратарыят Савета Бяспекі «прыступіў да праверкі аператыўна-службовай дзейнасці органаў памежнай службы краіны». «Плануецца вывучыць гатоўнасць сіл і сродкаў памежнай службы выконваць задачы па прызначэнні ў сучасных умовах», — гаворыцца ў паведамленні.

Ну і хто паверыць у тое, што Лукашэнка, Мальцаў і Мяжуеў гаварылі пра кіно?

## Абама: Прага свабоды хвалюе сэрцы ў Мінску

**Барак Абама лічыць неабходным арганізаваць бяспеку ў Еўропе і аказваць падтрымку дэмакратычным рухам па ўсім свеце.**

Пра гэта прэзідэнт ЗША заявіў, выступаючы сёння на Замкавай плошчы ў Варшаве (Польшча), дзе ён знаходзіўся з двухдзённым візітам.

«Нашы свабодныя нацыі будуць адзіныя, так што далейшыя расійскія правакацыі будуць азначаць толькі працяг ізаляцыі і павелічэнне затрат для Расіі, — цытуе Абаму газета «The Washington Post». — Мы не дазволім цёмнай сіле XX стагоддзя вызначаць падзеі ў XXI».

«Мы адзіныя, таму што мы ведаем, што дух Варшавы, Будапешта, Прагі і Берліна пашыраецца ўсюды, дзе прага свабоды хвалюе чалавечыя сэрцы, будзь гэта Мінск, Каракас, Дамаск ці Пхеньян», — заявіў прэзідэнт ЗША.

**БелаПАН**

## Бабруйскае УУС не змагло завесці справу на мясцовага актывіста, які распаўсюджваў «Новы Час»

**28 мая старшыня Бабруйскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Віктар Бузінаеў атрымаў па пошце ліст з мясцовага УУС.**

У лісце паведамлялася, што па факце распаўсюду Віктарам Бузінаевым газеты «Новы Час» УУС праведзена праверка. І адміністрацыйная справа была спынена ў сувязі з адсутнасць у дзеяннях Бузінаева складу адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага ч. 2 артыкулу 22.9 КААП РБ «Парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі».

Тым часам, як адзначае сам Віктар Бузінаеў, УУС не ставіла яго ў вядомасць пра тое, што супраць яго заведзеная адміністрацыйная вытворчасць і вядзецца нейкая праверка. Падставай для праверкі стала інфармацыя пра тое, што 7 мая на цэнтральным рынку Бабруйска Бузінаевым распаўсюджвалася газета «Новы Час».

Як адзначае Віктар Бузінаеў, усе неабходныя дакументы, якія дазваляюць распаўсюд «Новага Часу», у яго маюцца.

**spring96.org**

## Аляксандр Лукашук: Без памяці не бывае свабоды

**3 чэрвеня ў Мінску ў кнігарні «Галіяфы» па вуліцы Валгаградскай, 6 адбылася прэзентацыя кнігі Аляксандра Лукашука «Вяртанне нацыяналіста».**

У кнігу ў перапрацаваным і дапоўненым выглядзе ўвайшлі пяць ранейшых кніжак Лукашука — «Здзек», «За кіпучай чэкісцкай работай», «Філістовіч. Вяртанне нацыяналіста», «Прыгоды АРА ў Беларусі», «След матылька. Освальд у Мінску».

Зала кнігарні выдавецтва «Галіяфы» запоўнілася цалкам, сярод прысутнай публікі былі літаратары Уладзімер Арлоў і Генрых Далідовіч, даследчык рэпрэсій Ігар Кузняцоў, галоўны бібліятэкар Нацыянальнай Бібліятэкі Алена Сівакова. Было і шмат чытачоў, прыхільнікаў творчасці аўтара — пераважна моладзь.

Галоўная выказаная Аляксандрам Лукашуком тэза пра тое, што гісторыю нельга змяніць, але можна ўдакладніць, гучала ў інтэрпрэтацыі розных выступоўцаў.

**Паводле радыё «Свабода»**

## Бітва пад Оршай — бліскучая перамога

**Ці патрэбна святкаваць 500-годдзе Аршанскай бітвы? Як бачаць яе сучасныя расійскія і ўкраінскія гісторыкі? Колькі насамрэч ваяроў было з абодвух бакоў і якім чынам рэканструяваць тыя падзеі?**

Сёлета ў Беларусі святкуецца 500-годдзе Аршанскай бітвы, якой ганарылася Вялікае княства Літоўскае, а народ складаў песні. Белыя плямы той буйной падзеі не даюць супакою гісторыкам шэрагу дзяржаў.

Публічная дыскусія «Бітва пад Оршай праз 500 гадоў: асаблівасці нацыянальных інтэрпрэтацый» стала чарговай спробай праліць святло на таямніцы вакол славутай бітвы.

Арганізатарамі дыскусіі на пляцоўцы Крэатыўнай прасторы «ЦЭХ» у Мінску выступілі Інстытут палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» і Лятучы ўніверсітэт, а ладзілася мерапрыемства ў рамках Трэцяй Міжнароднай канферэнцыі «Войны ў палітычнай і культурнай традыцыі Беларусі і краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы».

# «Беларусь на авансцэне Еўразіі: паміж Масквой і Кіевам»

Вольга ХВОІН

**У Беларусі няма перадумоў для змены ўлады. Такую думку выказаў падчас канферэнцыі ў Варшаве ва ўніверсітэце Лазарскага «Беларусь на авансцэне Еўразіі: паміж Масквой і Кіевам» палітолаг, эксперт аналітычнага цэнтру «Стратэгія» Валер Карбалевіч.**

Аляксандр Лукашэнка прапануе ідэалагічны канструкт, элементы якога ён бярэ ў масавай свядомасці. Беларусы цяпер ёсць нацыяй спажыўцоў, аб'ядноўвае іх дзяржава, а галоўны інстытут у ёй — правадыр. І кіраўнік дзяржавы сам шматкроць публічна заяўляў гэтую думку: «Сыдзя — і ўсё развaліцца ў краіне».

— Пасля ўкраінскіх падзеяў паўстала ў поўны рост пытанне выжывальнасці гэтага канструкту, яго магчымасці супрацьстаяць выклікам часу і абставінам. І адназначнага адказу на гэта пакуль няма, — адзначыў Валер Карбалевіч.

— Трагедыя Беларусі ў тым, што наша незалежная грамадства, апазіцыя не ўплываюць на перамены, не ёсць суб'ектам палітыкі. Таму і ўздзеянне іх на грамадска-палітычнае жыццё мінімальнае, — гаворыць Карбалевіч. — Самае цікавае, у краіне назіраецца працэс рэгенерацыі, узнаўлення грамадства, што ўзнікла ў Беларусі ў 1990-я гады. Па ўзроўні палітычнай культуры мы цяпер знаходзімся ў сярэднявеччы. Для мяне паказальна, як беларускае грамадства адрэагавала на ўкраінска-расійскі канфлікт. Расійскія тэлеканалы атрымалі ашаламляльную перамогу, бо, паводле аднаго з даследаванняў, 60% беларусаў падтрымалі анексію Крыма. Сённяшняя падтрымка Лукашэнкі не харызматычная, а рацыянальная, бо залежыць ад цэнаў, заробкаў, іншых сацыяльных паказчыкаў. Але пасля падзей ва Украіне гэты эканамічны чыннік перастаў адыгрываць першасную, галоўную ролю. Цяпер яна належыць фактару бяспекі, беларусы спужаліся анархіі, хаосу, што пабачылі ва Украіне. Павысіўся запыт на стабільнасць, цвёрдую руку.

Валер Карбалевіч адзначае, што Беларусь усё больш зацягваецца ў расійскі абшар у эканамічным, ваенна-палітычным аспекце. І выйсця з гэтага пакуль не прадбачыцца. «І я не выключаю, што свой гістарычны шанец на трансфармацыю Беларусь ужо ўпусціла, бо ў нас было 25 год — вялізны адрэзак па цяперашніх мерках — і мы гэтым не скарысталіся», — песімістычна рэзюмуе палітолаг.

— Я не чакаю вялікіх пераменаў, пакуль існая сістэма не выпрацуе свой мотарэсурс. А менавіта, калі бальшасць грамадства пачне разумець, што сістэма не працуе.

# Звычайны Валенса

Сяргей ПУЛЬША

**Чвэрць стагоддзя таму ў Польшчы адбылася падзея, якая змяніла мапу Еўропы. У Мінску з гэтай нагоды пасольства Рэспублікі Польшча арганізавала паказ фільма пра чалавека, без якога гэтыя падзеі ніколі б не адбыліся. Паказ фільма Анджэя Вайды «Валенса. Чалавек-надзея» прайшоў у кінатэатры «Цэнтральны».**



Як сказаў перад паказам пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка, 4 чэрвеня 1989 года ў Польшчы адбыліся «першыя пасля Другой сусветнай вайны часткова свабодныя і дэмакратычныя выбары». «У іх выніку ў Польшчы быў сфармаваны першы некамуністычны ўрад. Гэта лічыцца пераломным момантам у працэсе палітычных зменаў не толькі ў Польшчы, але і ва ўсёй Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. І яны сталі пачаткам трансфармацыі існуючага парадку ў так званых «краінах народнай дэмакратыі», — адзначыў Шарэпка.

Менавіта дзякуючы руху «Салідарнасць» і ягонаму лідару Леху Валенсе сталі магчымымі пераўтварэнні, якія прывялі да краху камунізму ў «сацыялістычным лагеры». Шарэпка працаваў прэзідэнта Польшчы Браніслава Камароўскага, які ў сваім звароце да палякаў з нагоды 25-й гадавіны першых польскіх выбараў адзначыў, што «4 чэрвеня быў днём перамогі салідарнасці і мужнасці над сумневамі і палітычным сіроцтвам. 4 чэрвеня — гэта пачатак зменаў палітычнага ладу ўсяго свету. 4 чэрвеня — гэта зварот надзеі на суверэннасць і дзяржаўнасць краінаў Усходняй Еўропы».

Кажучы пра сам фільм, Шарэпка адзначыў, што Анджэй Вайда «паказвае гісторыю вялікіх пераменаў, якія прайшлі не толькі праз партыйныя сходы і круглыя сталы, але і праз кватэру ў Гданьскім спальным мікраараёне».

«Урываючыся ў прыватнае жыццё аднаго з лідараў прафсаюзаў, ён паказваеператварэнне звычайнага, засяроджанага на паўсядзённым жыцці чалавека ў харызматычнага лідара. Гэта расповед пра простага мужа, бацьку, працоўнага, які вызваліў у сэрцах людзей схаваныя мары пра свабоду і справядлівасць. Але фільм распавядае і пра жонку, і пра сям'ю Леха Валенсы, якая магла б жыць звычайным жыццём, але была ўцягнута ў цэнтр гістарычных падзеяў», — дадаў Шарэпка.

Сапраўды, фільм Вайды грунтуецца на некалькіх «паралельных рэальнасцях». У аднай рэальнасці Валенса (яшчэ ў камуністычнай Польшчы) дае інтэрв'ю замежнай журналістцы. Гэтая рэальнасць перацякае ў другую — успаміны Валенсы пра тое, як пачыналася «Салідарнасць» і пра ягоныя асабістыя адчуванні і дзеянні ў той момант на фоне сям'і і дзяцей. Трэцяя рэальнасць, — гэта, уласна, «Салідарнасць», гісторыя яе стварэння і дзеяння праз адчуванні Валенсы.

Фільм варта паглядзець хаця б для таго, каб пераканацца, што «сям'я і дзеці» не могуць быць апраўданнем уласнай баязлівасці і бяздзейнасці: Валенса займаўся палітыкай, калі ў яго было шасцёра дзетак. І дзеля таго, каб даведацца, што для кампрамісаў іншым разам патрэбная не меншая мужнасць, чым для супрацьстаяння.

Хутчэй за ўсё, яго можна будзе глядзець толькі ў прыватным парадку, на розных дысках і іншых носьбітах, а не на вялікім экране ў Расіі і Беларусі. Палітычныя рашэнні тут не пры чым. У фільме паляць усе, хіба што за выключэннем дзяцей і жонкі Валенсы, ды Нобеля на медалі з Валенсавай узнагароды. А ў нас курцы на экране як мінімум не вітаюцца.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Дзе Нобель па эканоміцы?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Усё ж такі Беларусь — краіна цудаў. І вельмі шкада, што Нобелеўскі камітэт знаходзіцца недзе па-за яе межамі. Каб яны пажылі тут і пабачылі, як функцыянуе беларуская эканоміка, якія тут прымаюцца рашэнні, і што гэтыя рашэнні, як ні дзіўна, працуюць, — усе «Нобелі» па эканоміцы былі б нашыя на 10 гадоў наперад. А можа, і назад.**

Вось, напрыклад, у краіне, як вядома, узнік дэфіцыт свініны. Адпаведна, на яе падскочылі кошты. Што ў гэтым выпадку робіць нармальная краіна? Займецца альбо інтэнсіўным вырошчваннем сваіх свінняў, альбо пачне закупляць мяса ў суседзяў.

Але толькі не Беларусь. Як паведаміў міністр эканомікі Мікалай Снапкоў, для таго, каб кампенсаваць дэфіцыт свініны, урад на 10% павысіў кошты на мяса птушкі.

Якое дачыненне мае птушка да свініны? Як павышэнне коштаў на птушку адаб'ецца на з'яўленні ў продажы свініны? Ды ніяк! Проста, паводле Снапкова, «як паказвае жыццё, калі мяса на рынку мала, яго заменнікам выступае курацiна». І аказваецца, «каб насыціць мясцовы рынак, кампенсуючы недахоп свініны, мы і паднялі з 21 мая на 10% цэны на мяса птушкі. Цяпер вытворцам стане выгадна накіроўваць прадукцыю на ўнутраны рынак».

Што яшчэ адметна ў гэтай сітуацыі? А тое, што праз павышэнне коштаў на курыцу ўлада спрабуе вырашыць тую самую праблему, якую яна сама сабе стварыла. Паводле Снапкова, недахоп свініны ў нас з'явіўся з-за афрыканскай чумы свінняў, якая навалілася на Беларусь у мінулым годзе, і ў выніку пагалоўе свіней у сельгасарганізацыях скарацілася на 20%, а ў насельніцтва — амаль на 50%.

Выбачайце, а колькі народу ў мінулым годзе пратэставала супраць гвалтоўнага «выразання» свінняў? Замест таго, каб праводзіць прафілактычныя мерапрыемствы на свінафермах, міліцыя і прадстаўнікі санстанцыяў палявалі за хрушкамі на сялянскіх падворках, знішчаючы іх без усялякіх аналізаў проста на месцы. Ужо тады ўсе папярэджвалі — рыхтуйцеся да падаражання і дэфіцыту свініны. А калі наступствы нас урэшце напаткалі, Снапкоў разводзіць рукамі: няма свініны, і ўсё. Нібыта яму ніхто нічога пра наступствы не казаў.

І ўвогуле, нешта нам не тое гаворыць Снапкоў. Насамрэч, ніякая АЧС у знікненні свініны не вінаватая, бо, па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, нягледзячы на свіную чуму, у Беларусі ў 2013 годзе вытворчасць свініны не знізілася, а павялічылася на 10,6% і склала 212,5 тысячы тон.

Застаецца пытанне: куды ж яна знікла? Бо гэтае знікненне ўсе бачаць і на свае вочы, і адчуваюць на ўласнай кішэні.

Можна было б закупіць свініну і ў замежжы — такія планы існуюць. Але за якія грошы?

Патэнцыйна, грошы ў нас ёсць. Але зарабіць іх перашкаджаюць палітычныя забабоны. На тыдні Беларусь зноў была ўнесена ў спецпараграф Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) як краіна, дзе груба парушаюцца правы прафсаюзаў.

Прайшло ўжо больш за дзесяць гадоў з таго часу, як Адміністрацыйны савет МАП пачаў расследаванне парушэнняў правоў прафсаюзаў у Беларусі. Гэта стала прычынай выключэння краіны з Генеральнай сістэмы прэферэнцый Еўрасаюза ў чэрвені 2007 года. А выключэнне з сістэмы прэферэнцый у гандлі — страта жывых грошай. Аб'ём эканамічных непрыемнасцяў складае ад 100 да 300 мільёнаў еўра на год.

«Мы заходзім ужо на другое дзесяцігоддзе, і МАП поўная рашучасці прымусіць беларускія ўлады выканаць рэкамендацыі», — пракаментаваў гэтае рашэнне кіраўнік Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук, маючы на ўвазе 12 рэкамендацый, якія дазволяць Мінску вярнуцца ў сістэму прэферэнцый (даць незалежным прафсаюзам магчымасць рэгістраваць пярвічныя арганізацыі; даць ім права працаваць нароўні з афіцыйнымі прафсаюзамі; спыніць пераслед грамадзян па прафсаюзнай прыналежнасці; забяспечыць усім прафсаюзным аб'яднанням права ўдзелу ў вырашэнні важных сацыяльных праблем краіны і інш.). Для гэтага не трэба грашовых затратаў — для гэтага трэба толькі палітычнае рашэнне, прычым толькі адно.

А колькі б мы чэмпіянатаў свету маглі б правесці за 300 мільёнаў еўра на год!

Тым не менш, грошы ў нас ёсць, але не для людзей. Прынамсі, не для ўсіх. Напрыклад, днямі абвешчаны новы тэндэр на закупку элітнага посуду для новай рэзідэнцыі кіраўніка Беларусі.

Заяўка на закуп сталовага посуду для камплектацыі Палаца Незалежнасці размешчана на афіцыйным сайце дзяржзакупак Нацыянальнага цэнтра маркетынгу і кан'юнктуры цэн ад імя Упраўлення капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама. На посуд для рэзідэнцыі выдаткавана аж 2 мільярды 548 мільёнаў 333 тысячы 575 беларускіх рублёў!

Канешне, і ў Палацы Незалежнасці трэба з нечага есці. Але, насамрэч, было б што есці і былі б грошы на гэтую ежу. А ў беларусаў з гэтым час ад часу ўзнікаюць складанасці.

Як высветліў даследчы цэнтр «HeadHunter-Беларусь», у ходзе апытання 1 130 чалавек, кожны пяты беларус пасля атрымання зарплаты амаль адразу ж пачынае чакаць наступную. 31% лічыць дні да выплаты грошай ужо за 2 тыдні, 39% — за тыдзень. Толькі 5% апытаных сцвярджаюць, што з імі падобныя сітуацыі не здараюцца, бо яны выразна плануюць свае выдаткі, і толькі 3% нашых суграмадзян наогул не чакаюць зарплаты, бо не адчуваюць праблем з грашыма.

Больш цікава, на што трацяць свой заробак беларусы. І аказваецца, што мы — сумная няшчасная нацыя, задзёўбаная побытавымі праблемамі. Большасць беларусаў трацяць асноўную частку свайго заробку на харчаванне, другі артыкул выдаткаў — гэта аплата жылля, трэці — утрыманне дзяцей. І менш за ўсё выдаткаў прыпадае на забаўкі і шопінг. Пэўна, таму, што за ўсіх нас шопінгам займаюцца тыя, хто можа дазволіць набыць сабе сервіз за два з паловай мільярды рублёў.

Лічыцца, што чым менш у сям'і доля выдаткаў на ежу, тым больш высокая якасць жыцця ў краіне. Але якая можа быць якасць жыцця, калі дэфіцыт свініны кампенсуецца ростам коштаў на курыцу?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Мясніковіч



**Дробязь, але прыемна. На адкрыцці новай станцыі мінскага метрапалітэна «Малінаўка» прэм'ер-міністр Беларусі атрымаў падарунак. Міхаілу Мясніковічу падаравалі месячны праязны білет на метро.**

«Мне сёння далі праязны білет... Я спытаў: на колькі? Яны сказалі: да канца месяца... Ужо скарыстаўся адзін раз і безумоўна скарыстаюся яшчэ», — адзначыў Мясніковіч.

Будзем спадзявацца, што такі падарунак не быў завуаляваным намёкам на тое, што кіраўніку ўрада трэба быць бліжэй да народу. З іншага боку, можа быць, Мясніковіч і сапраўды скарыстаецца гэтым праязным, каб паслухаць, што народ кажа ў транспарце пра, напрыклад, павышэнне коштаў на свініну.

Але шкада ўсё ж, што Мясніковічу не падаравалі ровар: інакш бы ён ездзіў на працу, як прэм'ер Швецыі альбо Вялікабрытаніі. Ну чым Мясніковіч горш за Дэвіда Кэмерана ці Ёна Фрэдэрыка Райнфельда?

## Дар'я Домрачава



**Трохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар'я Домрачава стала паслом добрай волі Праграмы развіцця ААН. Пасведчанне спартсменцы падчас урачыстай цырымоніі ў мінскай гарадской ратушы ўручыла адміністратар ПРААН Хелен Кларк.**

«Мне вельмі прыемна вітаць Дар'ю ў якасці пасла добрай волі ААН. Задача ПРААН ва ўсім свеце — аказваць станоўчы ўплыў на жыццё людзей, і нам вельмі прыемна, што Дар'я Домрачава падтрымае нас у гэтай высакароднай справе. Велізарная папулярнасць Дар'і сярод грамадзян Беларусі, і асабліва сярод маладога пакалення, пераконваюць мяне ў тым, што яна стане для іх прыкладам здаровага ладу жыцця», — адзначыла Хелен Кларк.

Дар'я Домрачава возьме ўдзел у дзейнасці ПРААН у галіне папулярызацыі здаровага ладу жыцця сярод дзяцей, падлеткаў і дарослых у Беларусі. Да гэтага паслом ПРААН з беларускіх спартсменаў быў тэнісіст Максім Мірны.

Дар'я Домрачава — трохразовая алімпійская чэмпіёнка: заваявала тры залатыя медалі на XXII зімовых Алімпійскіх гульнях–2014 у Сочы. Бронзавы прызёр XXI Зімовых Алімпійскіх гульняў–2010 у Ванкуверы; двухразовая чэмпіёнка свету па біятлоне (2012 і 2013 гады), трохразовы срэбраны прызёр чэмпіянатаў свету па біятлоне (2008, 2011 і 2012 гады).

## Вікторыя Азаранка



**Журналіст «New York Times» Бэн Ротэнберг паведаміў, што экс-першая ракетка свету беларуска Вікторыя Азаранка разышлася са сваім хлопцам, музыкам Рэдфу.**

«Крыніца, блізкая да Вікторыі Азаранка, паведаміла, што яны з Рэдфу развіталіся пасля 20 месяцаў адносін», — цытуе журналіста «Прессбол».

Нагадаем, сустракацца з вядомым музыкам Азаранка стала больш за паўтара гады таму. Рэдфу прысутнічаў на матчах Азаранкі, а яна наведвала разам з ім музычныя тусоўкі, і нават знялася ў ягоным кліпе. Справа ішла да вяселля. Прынамсі, Азаранка казала: «Калі вы ўбачыце на маім пальцы вялікі і яркі пярсцёнак, тады і пагаворым пра вяселле. Добра, калі б Рэдфу падарыў мне пярсцёнак вялікага памеру».

У сакавіку ўвесь час хадзілі чуткі, што Азаранка і Рэдфу калі і не парваліся шлюбам таемна, то, зменшага, заручаныя. Прынамсі, Азаранка выклала ў інтэрнэт фотаздымак з вялікім пярсцёнкам на безыменным пальцы.




Фота http://i1.ytimg.com

# Прававы статус асобы

Міхаіл ПАСТУХОЎ, Сяргей ПУЛЬША

**Пасля азнаямлення з Канстытуцыяй 1994 года і зместам папраўак, якія былі ўнесеныя ў яе шляхам рэферэндумаў, засяродзім увагу на самым важным раздзеле Асноўнага закону: «Асоба, грамадства, дзяржава». У ім замацаваны асноўныя правы, свабоды і абавязкі грамадзян, а таксама гарантыі іх забеспячэння і абароны.**

Гэта неабходна ведаць любому грамадзяніну, які хоць раз у жыцці спасылаўся на «канстытуцыйныя правы».

Фундаментальнае значэнне маюць артыкулы 21, 22 і 23 Канстытуцыі. Менавіта яны вызначаюць чатыры асноўныя рэчы: забяспечанасць правоў і свабод; паўнату нададзеных правоў і свабод; роўнасць усіх перад законам; законнасць і абгрунтаванасць абмежавання правоў і свабодаў.

### Усё для грамадзяніна

Згодна з часткай 1 артыкула 21 Канстытуцыі, забеспячэнне правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь з'яўляецца вышэйшай мэтай дзяржавы. З гэтай нормы вынікае, што для дзяржавы і ўсіх яго органаў няма больш важнай задачы, чым стварэнне ўмоў, спрыяльных для рэалізацыі правоў і свабод грамадзян.

Такая стратэгічная мэта пазначаная і ў першых артыкулах Канстытуцыі, у якіх Рэспубліка Беларусь аб'яўляецца дэмакратычнай, сацыяльнай і прававой дзяржавай, а чалавек, яго правы і свабоды — вышэйшай каштоўнасцю дзяржавы і грамадства (артыкулы 1 і 2).

Больш за тое, на дзяржаву ўскладаецца абавязак «прымаць усе даступныя ёй меры для стварэння ўнутранага і міжнароднага ладу, неабходнага для поўнага ажыццяўлення правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных Канстытуцыяй» (частка 1 артыкула 59). Усе дзяржаўныя органы, службовыя і іншыя асобы, якім даверана выкананне дзяржаўных функцыяў, у тым ліку кіраўнік краіны, абавязаны ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод асобы (частка 2 арт. 59).

Вось так. Усё — для нас, усё — для грамадзян. Найпершы клопат усіх дзяржаўных органаў і службовых асоб — думаць і дбаць пра сваіх грамадзян, зрабіць для іх дабрабыту ўсё магчымае. Не парушаць іх правоў і свабод, не падвяргаць іх абмежаванням, нават калі грамадзяне крытыкуюць уладу, патрабуюць рэформаў і нават змены ўлады.

У тых выпадках, калі правы грамадзян парушаюцца, грамадзяне павінны мець эфектыўныя сродкі абароны. Такіх сродкаў павінна быць дастаткова — пачынаючы ад незалежнага і бесстаронняга суда і заканчваючы парламенцкім упаўнаважаным па правах чалавека.

Што маем на практыцы? З аднаго боку, заканадаўства фармальна замацоўвае правы і свабоды грамадзян, а з іншага — немагчыма рэалізаваць абвешчаныя правы і свабоды. Гэтая сітуацыя перадвызначаецца як істотнымі абмежаваннямі правоў і свабод, так і складанай працэдурай іх ажыццяўлення. Акрамя таго, дзяржаўныя органы і службовыя асобы не прымаюць «неабходныя меры для ажыццяўлення і абароны правоў і свабодаў асобы».

**Адначасова з неабгрунтаванымі льготамі і перавагамі для адных асоб допускаецца дыскрымінацыя ў дачыненні да палітычных апанентаў дзеючай улады**

Напрыклад, дэкларуецца, што кожны мае права на свабоду сходаў. Але рэалізаваць гэта права для шараговага грамадзяніна амаль немагчыма. Чаму? Па-першае, улады часцяком не даюць дазволу на мерапрыемства, а па-другое, трэба вырашыць шэраг «працэдурных пытанняў». Так, для правядзення сходу, пікету альбо мітынгу загадзя трэба заплаціць немалую суму: заключыць дамову з міліцыяй на ахову парадку, з медыкамі — на магчымае аказанне ўдзельнікам сходу медычнай дапамогі, з камунальшчыкамі — на прыборку тэрыторыі пасля мерапрыемства. Гэта вялікія грошы, якія не ў кожнага знойдуцца. Хаця за ўсё гэта, насамрэч, ужо заплачана: і міліцыя, і камунальшчыкі, і медыкі атрымліваюць грошы з бюджэту, а, значыць, з нашых з вамі падаткаў.

### Правы і свабоды — напоўніцу?

У адпаведнасці з часткай 3 артыкула 21 Канстытуцыі, «дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзян Беларусі, замацаваныя ў Канстытуцыі, законах і прадугледжаныя міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы».

З гэтай нормы вынікае, што грамадзяне могуць разлічваць на тое, што ўсе правы і свабоды, пра якія ідзе гаворка ў Канстытуцыі і іншых законах краіны, можна выкарыстоўваць. Пры гэтым не важна, якія гэта правы: грамадзянскія, палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя ці культурныя. Любыя! Па сваім жаданні! Заўсёды!

Дзяржава таксама павінна стварыць умовы для рэалізацыі правоў і свабод, прадугледжаных і ў ратыфікаваных міжнародных дамовах. Нормы міжнародных дамоваў павінны дзейнічаць на тэрыторыі краіны, і на іх можна наўпрост спасылацца як на нормы беларускага заканадаўства.

А калі прадстаўнікі ўлады не выконваюць сваіх абавязацельстваў перад грамадзянамі? У такім выпадку яны, па сутнасці, абкрадаюць грамадзян, паколькі не дазваляюць карыстацца іх «багаццем» — правамі і свабодамі. Улада ператварае людзей у бедных, залежных і бяспраўных, што прыводзіць да сацыяльных катаклізмаў.

### Некаторыя «больш роўныя»?

Артыкул 22 Канстытуцыі прадугледжвае, што ўсе роўныя перад законам і маюць права без усякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў.

Гэта — прызнанне пастулату Дэкларацыі правоў і свабод чалавека і грамадзяніна 1789 года, галоўнага дакумента Вялікай Французскай рэвалюцыі: «Усе нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці» (артыкул 1).

Так і павінна быць у дэмакратычнай прававой дзяржаве. Калі парушаецца гэты прынцып, то грамадства перастае быць справядлівым. Яно пачынае дзяліцца на прывілеяванае саслоўе і людзей, пазбаўленых правоў. Па агульным прынцыпе, улада займае бок прывілеяваных і ўціскае абяздоленых.

Нешта падобнае назіраецца ў Беларусі. Чаму такое адбылося і што стала адпраўной кропкай?

Хутчэй за ўсё, прычынай стала ўсёдазволенасць кіраўніка дзяржавы, у тым ліку неабмежаваныя паўнамоцтвы і права на бестэрміновае знаходжанне на вышэйшай пасадзе. Прыклад «першай асобы» пацягнуў за сабой ланцуговую рэакцыю ніжэйстаячых службовых асоб. Яны паступова прысабечвалі ўсё новыя і новыя ільготы і перавагі. Сярод іх нават права на вызваленне ад адказнасці за парушэнне законаў. Так, у адпаведнасці з папраўкамі у Крымінальна-працэсуальны кодэкс пытанне аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці асоб, якія ўваходзяць у кадравы рэестр кіраўніка дзяржавы, вырашаецца толькі з ягонай згоды.

Адначасова з неабгрунтаванымі льготамі і перавагамі для адных асоб дапускаецца дыскрымінацыя ў дачыненні да іншых катэгорый грамадзян, перш за ўсё, палітычных апанентаў дзеючай улады. Прыкладаў таму — мноства.

І тое, і іншае недапушчальна з пазіцыі Канстытуцыі. Але ў нашым выпадку Канстытуцыя, як гаворыцца, «адпачывае».

### Абмежаванне як выключэнне

Згодна з артыкулам 23 Канстытуцыі, абмежаванне правоў і свабод дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб.

Вядома, пэўныя абмежаванні ў рэалізацыі правоў і свабод могуць мець месца. Трэба ж неяк затрымліваць асоб, якія падазраюцца ў здзяйсненні злачынстваў, рабіцьператрусы і выемкі па расследуемым справах і г.д. Нейкія абмежаванні могуць быць у сферы свабоды выказвання меркаванняў, распаўсюджвання інфармацыі, пры правядзенні мітынгаў, сходаў, шэсцяў. Напрыклад, каб не дапусціць распальвання міжнацыянальнай варожасці. Магчымыя абмежаванні пры стварэнні палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў, каб забараніць відавочна экстрэмісцкія і тэрарыстычныя арганізацыі.

Аднак гэтыя абмежаванні павінны быць разумнымі і насіць выключны характар. Зыходзячы з сэнсу артыкула 23 Канстытуцыі, абмежаванні правоў і свабод грамадзян могуць дапускацца пры наяўнасці дзвюх умоў: яны павінны ўсталёўвацца законам і прымяняцца толькі ў неабходных выпадках. Ніякіх «адвольных» забаронаў і абмежаванняў быць не павінна.

Лічыцца, што закон павінен выказваць грамадскую патрэбу, а не інтарэсы ўладных структур. Ён павінен прымацца вышэйшым прадстаўнічым органам улады ў выніку галоснага абмеркавання. Па сэнсе дадзенай канстытуцыйнай нормы не дапускаецца ўвядзенне абмежаванняў правоў і свабод грамадзян прэзідэнцкімі дэкрэтамі і ўказамі, пастановамі ўрада, ведамаснымі актамі. Калі такое адбываецца, то дадзеныя акты павінны прызнавацца супрацьпраўнымі і, значыць, не маючымі юрыдычнай сілы, а асобы, вінаватыя ў іх выданні, павінны падлягаць адказнасці.

Абмежаванні павінны быць неабходнымі. Напрыклад, у мэтах абароны нацыянальных інтарэсаў спецслужбам можна дазволіць ажыццяўляць кантроль за асобамі, падазраванымі ў шпіёнскай дзейнасці, але зусім не за палітычнымі апанентамі ўлады. Так, праваахоўныя органы маюць права прымаць меры для спынення злачыннай дзейнасці, але не павінны выкарыстоўвацца для разгону мірных акцый пратэсту. Грамадзяніна можна затрымаць па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства, але нельга ператвараць у раба ці «паддоследную жывёлу» на перыяд знаходжання ў месцы папярэдняга зняволення.

Галоўнае, што мэты, якія пераследуюцца пры абмежаванні свабодаў, павінны быць прадыктаваныя інтарэсамі грамадства, а не інтарэсамі асобы альбо групы асоб, хай гэтая «група» на дадзены момант і знаходзіцца ва ўладзе. Мэты абмежавання свабодаў не павінны трактавацца больш шырока або аднабакова. Інакш гэта будзе замаскіраванай формай замаху на правы і свабоды грамадзян, якія ахоўваюцца законам.

### Вітаем у рэальнасці!

Як мы бачым, артыкулы 21, 22 і 23 Канстытуцыі, як і ўся Канстытуцыя ў цэлым, зараз не выконваюцца. Прадстаўнікі ўлады не прымаюць належных мер па забеспячэнні абвешчаных у Канстытуцыі правоў і свабод грамадзян. Прынцып роўнасці ўсіх перад законам носіць фармальны характар. Цэлыя пласты грамадства (чыноўнікі, суддзі, пракуроры, прадстаўнікі сілавых ведамстваў і інш.) маюць неабгрунтаваныя льготы і перавагі. Абмежаванне правоў і свабод грамадзян усталёўваецца адвольна і не толькі на ўзроўні законаў, але і падзаконных актаў.

Што з гэтым рабіць і як змяніць сітуацыю? Мы прымаем прапановы!

**Паважаныя чытачы! Свае пытанні па абароне правоў чалавека вы можаце задаць Міхаілу Пастухову, даслаўшы іх у рэдакцыю, альбо ў каментарах пад артыкулам на сайце novychas.info.**

# «Сацыяльная дзяржава» па ліміце

Тацццяна ЛІСІЧЭНКА

**Віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік не пакідае спадзеваў ператварыць «сацыяльную дзяржаву» ў «дзікі капіталізм». Ён ужо які год носіцца з ідэяй абмежаваць у Беларусі бясплатную медыцыну.**




У 2012 годзе Тозік патрабаваў браць грошы за кожнае наведванне паліклінікі. Зараз ягоныя апетыты паменшыліся — ён прапануе ўвесці ліміт бясплатных наведванняў дзяржаўных паліклінік.

Больш за тое, Тозік прапануе дзяліць хворых на «чэсных» і «нячэсных». Прынамсі, абмежаванне на колькасць наведванняў паліклінікі не павінна тычыцца дзяцей і цяжарных жанчын.

## Аплатай праблему не вырашыш

Неабходнасць ліміту бясплатных наведванняў паліклінік Тозік тлумачыць тым, што ў нас людзі ў паліклініку звяртаюцца ў два разы больш, чым у той жа Еўропе: у нас у сярэднім чалавек прыходзіць у паліклініку 13 разоў на год, а ў Еўропе — 6,2. Адсюль узнікае і нагрузка на ўрачоў, і чэргі ў паліклініках. Па меркаванні Тозіка, калі браць хаця б сімвалічную плату за наведванне медустановы, то «лішніх» наведвальнікаў там не было.

Але аплатай, насамрэч, гэтую праблему не вырашыш. Давайце ўявім, што захварэў звычайны чалавек. Не віцэ-прэм'ер Тозік, для якога існуе асобны шпіталь для вышэйшых чыноўнікаў, а нейкі абстрактны рабацяга. Яму трэба пайсці ў паліклініку, дзе ўрач яго агледзіць і выпісвае накіраванне на аналізы (наведванне першае). Трэба здаць аналізы (другое), атрымаць іх вынікі (трэцяе), зайсці з імі да ўрача (чацвёртае), атрымаць рэцэпт на лекі, і вылечыўшыся, закрыць бюлетэнь (пятае). І добра яшчэ, што ў Мінску, прынамсі, увялі такую паслугу, як «талончык да ўрача па інтэрнэце». А тое б за талончыкам даводзілася прыходзіць у шосты раз.

І не дай Божа вам патрапіць на працэдуры! Тады — акрамя гэтых шасці разоў — у паліклініку трэба будзе з'яўляцца кожны дзень. І, пэўна, кожны дзень плаціць, бо «рабацяга» ж — не дзіцё і не цяжарная жанчына.

Тая «мадэрнізацыя», якую мы нібыта скончылі ў медыцыне, гэты парадак ніяк не закранула. Не існуе ў паліклініках ніякага «электроннага дакументазвароту», урач не можа пераслаць пацыенту рэцэпт па электроннай пошце, і не існуе таго, каб «электронны рэцэпт» быў прызнаны ў аптэцы. Да таго ж, і не ўсе лекі ў аптэцы купіш — некаторыя бываюць выключна ў паліклініках…

Варта адзначыць, што, напрыклад, мінскія паліклінікі разглядалі магчымасць уводу «электронных рэцэптаў» яшчэ ў 2012 годзе. Аднак гэтая сістэма была пабудаваная такім чынам, што за «электронным рэцэптам» усё роўна трэба было ісці да ўрача! Сутнасць праекта была ў атрыманні рэцэпта на электронным носьбіце і з яго дапамогай (па аналогіі аперацый з банкаўскай карткай) аплаціць прызначаныя лекі, а не ў тым, каб атрымаць рэцэпт, не выходзячы з дому.

Так што, пакуль не будзе зменена сама сістэма зваротаў «пацыент — урач», ніякія чэргі ў паліклініках не знікнуць і не зменшацца, нават незалежна ад таго, будзе ўведзеная аплата за наведванне паліклінік ці не. Адзінае, што можа атрымацца з «аплатай паліклінікі», — тое, што Тозік «накосіць бабла» з захварэўшых небаракаў.

## Зменшыце падаткі!

Адкуль увогуле бяруцца грошы на медыцыну? З бюджэту. А адкуль бярэцца бюджэт? З нашых падаткаў. Калі ўводзіць аплату за наведванне паліклінік, то атрымаецца «двайное падаткаабкладанне»: мы плацім за медыцыну і з падаткаў, і з уласных грошай. Што ў гэтым выпадку рабіць Тозіку? Скасоўваць падатак на медыцыну?

Праўда, прыклад двайнога падаткаабкладання ўжо ёсць: «дарожны збор» з аўтааматараў. Уладальнікі машынаў павінны плаціць збор «на рамонт дарог» у той час, як яны за гэта плацяць кожны раз, калі заліваюць у бак бензін: праз акцызы, якія закладзеныя ў кошт паліва. Акцыз на паліва і стварыўся з мэтаю таго, каб яго вартасць ішла на рамонт дарогаў. Куды насамрэч ідзе і «дарожны збор», і акцызы — невядома.

Тое ж атрымаецца і з «бальнічным зборам». Нам не шкада аддаць пяць тысяч за прыход да ўрача. Але мы павінны ведаць, што тады ўрач нас якасна лечыць; гэтыя грошы пойдуць яму альбо пойдуць на медычныя рэчы, а не на новую мэблю ў кабінет кіраўніка ўстановы.

## І навошта хлусіць?

Самае непрыемнае ў гэтым рэчышчы, што дзяржава, абгрунтоўваючы такія захады, нам хлусіць. Што, зразумела, выклікае недавер і да далейшых яе намераў. Калі б патлумачылі шчыра і па-чалавечы, навошта гэта патрэбна, то, можа, мы і пагадзіліся б…

Абгрунтоўваючы неабходнасць аплаты за паліклініку, Тозік заявіў: «Людзі не разумеюць рэальнага кошту медыцынскіх паслуг. У нас пры колькасці насельніцтва каля 10 мільёнаў чалавек цяпер матэрыяльныя даброты вырабляюць 2,5 мільёна чалавек, яны павінны ўтрымліваць 7,5 мільёна астатняга насельніцтва. Гэта спараджае ўтрыманскія настроі і перакананасць у тым, што за сваім здароўем чалавек павінен сачыць не сам, а дзяржава, медыкі», — сказаў Тозік.

Між тым, па дадзеных Белстата, у эканоміцы Рэспублікі Беларусь у студзені-красавіку 2014 года было занята 4 мільёны 481 тысяча 700 чалавек. Што амаль на 2 мільёны больш, чым па звестках Тозіка. І, паводле таго ж Белстату, беспрацоўе ў «сацыяльнай дзяржаве» на канец красавік 2014 года склала 0,5% ад эканамічна актыўнага насельніцтва.

І не трэба казаць, што «матэрыяльныя даброты» маюць нейкае дачыненне да медыцыны. Настаўнікі і ўрачы таксама плацяць падаткі, з якіх гэтая медыцына фінансуецца.

## Ці тое, ці тое…

Такія «парадоксы Тозіка», насамрэч, узнікаюць з-за таго, што дзяржаўная ідэалогія ўваходзіць у сур'ёзную супярэчнасць з эканамічнай сітуацыяй. Ніхто не спрачаецца, што грошай для медыцыны выдзяляецца недастаткова, а ўзяць іх, акрамя як з кішэні насельніцтва, няма адкуль. Тады ёсць два выйсця. Першае — перастаць казаць пра «сацыяльную дзяржаву» і ўводзіць нармальную платную медыцыну з медычным страхаваннем. Хай тады за наведванне паліклінікі разлічваецца не грамадзянін, а які-небудзь «Белдзяржстрах» па медычным полісе. Але, баюся, што ў такім выпадку дзяржаўныя паліклінікі з іхным жахлівым сервісам і састарэлым абсталяваннем проста не вытрымаюць канкурэнцыі з камерцыйнымі медцэнтрамі.

І другое: працягваць казаць пра «сацыяльную дзяржаву». Але ўжо тады, выбачайце, Тозіка прыйдзецца саслаць у Антарктыду, каб пра свае навацыі ён распавядаў пінгвінам.

Альбо тое, альбо тое — «сацыяльная дзяржава» і плата за наведванне паліклінікі разам існаваць не могуць.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Паслухмяная Беларусь

**Як паведаміў Белстат, за першы квартал у Беларусі зарэгістравана 859 121 адміністрацыйных правапарушэнняў, па якіх органамі ўнутраных спраў вынесены пастанаўленні аб прызначэнні адміністратыўнага пакарання.**



Гэта шмат. Колькасць парушэнняў — на 31,2 працэнта больш, чым у першым квартале мінулага года, — мае відавочную дынаміку і, зразумела, павялічвае памеры пакаранняў. Згодна з КоАП, парушальнікі караюцца папярэджаннямі, штрафамі, выпраўленчымі работамі, адміністрацыйнымі арыштамі, пазбаўленнем спецыяльных правоў, пазбаўленнем права займаца вызначанай дзейнасцю, канфіскацыямі, дэпартацыямі.

Закон суровы, але гэта закон. Зразумела, большасць парушальнікаў плаціць штраф і з чыстым сумленнем вяртаецца да сваіх штодзённых спраў. Але здзіўляе колькасць «штрафнікоў».

Напачатку года насельніцтва Беларусі складала 9,5 мільёна чалавек. За мінулы год колькасць адміністрацыйных парушэнняў склала 3,1 мільёна выпадкаў. Атрымліваецца, што парушальнікам стаў кожны трэці жыхар краіны. Калі ж узяць у разлік толькі працаздольных (ад 16 год да 55 — жанчыны і да 60 гадоў — мужчыны), колькасць якіх складае блізу 5,85 мільёна чалавек, то атрымліваецца, што не менш паловы дарослых людзей плаціць дзяржаве ці наяўнымі грошамі, ці задавальняюць яе прэтэнзіі да сваіх грамадзян іншымі спосабамі.

Вядома, што спагнаць штраф можна з таго, хто можа заплаціць. Значыць, з тых, хто працуе. Згодна з дадзенымі Белстата, колькасць занятых у эканоміцы краіны складае 4,49 мільёна чалавек, з якіх, атрымліваецца, 60–70% плацяць грашовыя штрафы.

Міліцыя любіць працаваць з пастаянным кантынгентам, які схільны да рэгулярных правапарушэнняў. Прыкладам, па распарадку выдачы заробкаў у райцэнтрах, у розных ПМК ды ЖКХ, міліцэйскія патрулі выязджаюць непасрэдна на ўлюбёныя месцы адпачынку атрымаўшых грошы працоўных. Туды, дзе п'юць і парушаюць. Як кажуць, каму выгадна?

Тэндэнцыя росту парушэнняў з відавочнасцю засведчана Белстатам. Тады што? Згодна з КоАП, памеры штрафу вызначаюцца ў базавых велічынях: ад 0,1 базавай велічыні да 30 у адносінах да фізічных асоб і 200 велічынь у адносінах да юрыдычных асоб.

Калі ўлічыць, што зараз базавая велічыня складае 150 тысяч рублёў (15 долараў), то, можна меркаваць, дзяржава на гэтай высокарэнтабельнай справе нядрэнна зарабляе. Атрымлівае наяўныя, адначасова падвышае базавую велічыню — і аўтаматычна штрафы. Праводзіць па сутнасці своеасаблівую санацыю заробкаў і сацыяльных выплат насельніцтва. Атрымаў — аддай частку назад.

Гэта вечная барацьба, калі дзяржава з'яўляецца манапольным вытворцам рознага алкаголю і адначасова манапольным «перавыхавацелем» алкаголікаў. Поспехі ў гэтай справе адзначыла нават Сусветная арганізацыя аховы здароўя, якая па ўзроўню алкагалізацыі насельніцтва вывела Беларусь на першае месца ў свеце.

Непрыемна для ўсіх нас, няёмка перад цывільных светам. І п'яніцам, і непітушчым. Акрамя роднай дзяржавы. Ёй усё пасуе. Бо пасля вызначэння медыкаў ААН, улады, трэба чакаць, у пэўнай ступені абмяжуюць вытворчасць і гандаль гарэлкай і «чарніламі», і тым самым створаць… асаблівa спрыяльныя ўмовы для эскалацыі барацьбы з п'янствам. Штрафы ўзрастуць і, натуральна, пальюцца ў дзяржаўную скарбніцу.

Зразумела, што барацьбу з пастаяннымі парушальнікамі адміністратыўных укладанняў дзяржава праводзіць фармальна.

На мой погляд, галоўнай мэтай адміністрацыйнай палітыкі з'яўляецца ратацыя кадраў правапарушальнікаў. Бо той, хто аднойчы трапіў у рэестр, прайшоў адпаведную прафілактыку, добра памятае, што і за што з ім могуць зрабіць. Таму не высоўваецца. Ведае, што ў выпадку рэцыдыву страціць усё.

Нельга памыліцца ў выснове, што большая частка з 800 тысяч асобаў, якіх пакаралі за першы квартал, — гэта новы рэкруцкі набор. І так месяц за месяцам, год за годам дзяржаўная машына куе кадры канфармістаў. Іх не чапаюць да пэўнага часу. Своеасаблівы стратэгічны рэзерв стабільнасці, у якім кожны ведае, што любога могуць пакараць у любы момант.

Так фарміруецца знакамітая зэкаўская максіма: нас усіх пакараюць, але мяне заўтра.

TV

## 13 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**11.05** Рамантычная камедыя «Давай пацалуемся» (Украіна).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.15** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**17.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.10** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**20.00** Рамантычная камедыя «Давай пацалуемся» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Трылер «Адрачэнцы» (ЗША).
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Маст. фільм «З жыцця адпачываючых».
**10.40** Ералаш.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** 1812.
**12.05** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** 1812.
**15.00** «Зваротны адлік».
**15.30** «Вучыцца жыць».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Мастацкі фільм «Два дні».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Мінск».
**22.20** «Што? Дзе? Калі? у Беларусі».
**23.55** Мастацкі фільм «Доказ жыцця».
**02.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**12.05** «Ся мейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Каралева праклятых». ЗША - Аўстралія, 2002г.
**15.40** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** СТБ прадстаўляе: 1/4 фіналу Цэнтральнай Міжнароднай лігі КВЗ.
**22.00, 23.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.55** «Вялікая гульня». Покер.
**00.40** Фільм «Прынцып даміно». Вялікабрытанія - ЗША, 1977г.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Адзін цень на дваіх» (Расія). 5-я серыя.
**10.10** Беларуская кухня.
**10.50** Стыль-бюро.
**11.20** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоў-праграма (Расія).
**11.50** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў» (Расія).
**12.55** Серыял «Рэальныя мальцы».
**14.00** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў. Фінал.
**15.00** Фантастычны баявік «Суддзя Дрэд».
**16.55** Рэпарцёр.
**17.50** Дэтэктыўны серыял «Адзін цень на дваіх» (Расія). 5-я серыя.
**18.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Мексіка - Камерун. Прамая трансляцыя.
**20.55** Час футболу. Рыа-2014.
**21.45** КЕНО.
**21.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Іспанія - Галандыя. Прамая трансляцыя.
**23.50** Тэлебарометр.
**23.55** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.
**00.50** Камедыйны трылер «Кабельшчык».

### Беларусь 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Картка спажыўца.
**08.20** «Бацькі і дзеці». Мастацкі фільм паводле аднайменнага рамана І.С.Тургенева. 4-я серыя.
**09.30** «Лёс гігантаў». Аўтамабіль «Масквіч».
**10.00** Серыял. «Мегрэ». Заключная серыя.
**10.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Леаніда Лапчынскага.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.20** «Круглянскі мост». Мастацкі фільм паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.45** «Сімвалы эпохі». Картка спажыўца.
**13.00** «Скарбніца Магілёўшчыны». Стары Магілёў. Выхаваны агнём.
**13.25** «У пошуках Шэкспіра». Пра розныя падходы да матэрыялу і погляды на рэжысуру.
**13.40** «Цуды прыроды». Карыбы. Аўстралія.
**14.10** «Размаўляем па-беларуску».
**14.10** «Размаўляем па-беларуску».
**14.30** «Янка Купала... Я адплаціў народу». Дакументальны фільм.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Сімвалы эпохі». Картка спажыўца.
**15.20** «Карані». Ансамбль песні і танца «Васілёчкі» з горада Бельск-Падляшскі.
**15.45** «Жывіце ў гармоніі». Дак. фільм пра пра Бярэзінскі біясферны запаведнік.
**16.15** «Пра тое, як Колька і Пецька ляталі ў Бразілію». Кароткаметражны фільм па апавяданнях Данііла Хармса.
**16.40** «Наша спадчына». Шчучынскі палац Друцкіх-Любецкіх. 1-я і 2-я часткі.
**17.10** «Калейдаскоп».
**17.20** «Сімвалы эпохі». Картка спажыўца.
**17.30** «Плошча мастацтваў». Кампазітар, народны артыст Беларусі Валерый Іваноў.
**18.00** «Палескі пачастунак». Медавуха-вішняк.
**18.15** «Янка Маўр. Капітан дзіцячых мараў». Дакументальны фільм.
**18.40** «Размаўляем па-беларуску».
**18.45** Мультфільмы.
**19.15** «Росчырк часу». Акварэлі Фелікса Гумена.
**19.30** «Падарожжа мсье Перышона». Мастацкі фільм паводле вадэвіля Эжэна Лабіша.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Ідыёт». Маст. фільм паводле аднайменнага рамана Ф.М.Дастаеўскага. 1-я серыя.
**22.05** «Лёс гігантаў». Аўтамабіль «Масквіч».
**22.35** «Па старонках Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне». Век ХХІ.
**00.05** «АРТиШОК». Фотамастак С. Жданович.
**00.10** «Сімвалы эпохі». Картка спажыўца.
**00.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Леаніда Лапчынскага.
**01.00** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.20** Мастацкі фільм «Саюз непарушны».
**10.20** «Справа густу».
**10.50** «Да суда».
**11.45** Серыял «Яшчэ не вечар».
**13.20** Серыял «Яшчэ не вечар».
**17.10** Мастацкі фільм «СОБР».
**19.20** Мастацкі фільм «СОБР».
**00.40** Авіятары.

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.55** Аб'ектыў.
**08.20** Два на два (тэледыскусія): Валерый Мазынскі і Аляксей Марачкін.
**08.50** Чорным па белым: 20-годдзе Таварыства вольных літаратараў.
**09.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Януш Радзівіл.
**09.30** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма): Падарожжа па Віцебскай вобласці.
**09.50** «Апантаныя-2», дак. цыкл: «Не» – смяротнаму пакаранню!.
**10.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Палітычная будова княства.
**10.15** «Глыбокая вада», серыял: 4 серыя.
**11.00** «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**11.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**17.00** Аўтастопам праз Еўропу: Берлін.
**17.15** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: Уладзімір Арлоў.
**17.25** «Простыя справы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**17.40** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 2 серыя.
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Каму трэба імя па бацьку?
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Жыццё Еўфрасінні Полацкай.
**19.15** Зоры не спяць: Пятро Васючэнка і казка.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Павел Ян Сапега.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Форум (ток-шоў): Нацыя піратаў.
**22.10** «Напярэданні блюзам», музычная драма, 2006 г., Польшча.
**23.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.50** Аб'ектыў.

## 14 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### Беларусь 1

**06.50** Існасць.
**07.15** Лірычная камедыя «Нявеста на замову» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.45** Камедыйны серыял «Сваты 4».
**10.55** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.30** Дача.
**12.10** Давярай і правярай.
**12.50** Здароўе.
**13.30** «Мастакі Парыжскай школы. Выхадцы з Беларусі».
**14.10** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Давярай і правярай.
**16.05** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў.
**17.20** Меладрама «Жыла-было каханне».
**19.15** Крымінальная меладрама «Сінія як мора вочы» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Лірычная камедыя «Нявеста на замову» (Расія).
**23.35** Камедыйны серыял «Сваты 4».
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** Смак.
**11.05** «Усё перамелецца, родная...».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Мастацкі фільм «Каханне і галубы».
**15.05** Гарады-героі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**16.55** АНТ прадстаўляе «Адзін супраць усіх».
**17.40** Мастацкі фільм «Каханне да сабак абавязковае».
**19.25** Пачуццё гумару.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Якраз як».
**23.55** Што? Дзе? Калі? .
**01.05** Вайна ў Карэі.

### СТВ

**06.15** «Студэнты». Серыял.
**07.10** Фільм «Заўтра на світанні». Францыя, 2009 г.
**09.00** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.35** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.30** «Мінск і мінчыне».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Фільм «Чорны замак Альшанскі». Беларусьфільм, 1983г. 1-я серыя.
**14.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.35** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Гран Тарына». ЗША - Германія, 2008г.
**22.20** «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.25** Фільм «Горад і вёска». ЗША, 2001г.
**01.15** «Глядзець усім!».

### Беларусь 2

**07.15** Мультфільм «Дзікія лебедзі».
**08.10** Фільм-казка «Жывая вада».
**09.45** Беларуская кухня.
**10.20** Тэлебарометр.
**10.25** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.30** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоў-праграма (Расія).
**13.00** Вышэй за дах.
**13.35** Сямейная камедыя «Капітан Крук».
**16.10** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў. Суперфінал.
**17.20** Футбол. Чэмпіянат свету. Агляд гульнявога дня.
**18.00** Ваша лато.
**18.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**18.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Калумбія - Грэцыя. Прамая трансляцыя.
**20.55** Час футболу. Рыа-2014.
**21.45** КЕНО.
**21.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Уругвай - Коста-Рыка. Прамая трансляцыя.
**23.50** Тэлебарометр.
**23.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Сталоўка.
**08.25** «Таямніца душы». Мова богаслужэння.
**08.50** «АРТиШОК». Фотамастак С.Жданович.
**09.15** «Падарожжа мсье Перышона». Мастацкі фільм паводле вадэвіля Эжэна Лабіша.
**10.35** «Наперад у мінулае».
**11.00** «Брэсцкая ўнія». Дак. фільм.
**11.30** «Размаўляем па-беларуску».
**11.35** «Плошча мастацтваў». Народны артыст Беларусі Арнольд Памазан.
**12.00** «Калі мамы няма дома». Тэлеспектакль па п'есе Ніла Саймана «Апошні палка закаханы».
**14.05** «Калейдаскоп».
**14.15** «Сімвалы эпохі». Сталоўка.
**14.30** «Пастка». Кароткаметражны фільм паводле аднайменнай аповесці В.Быкава.
**15.00** «Росчырк часу». Мастак Уладзімір Андрыянаў.
**15.15** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Позірк праз вякі.
**15.40** «Размаўляем па-беларуску».
**15.45** «Па старонках Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне». Век ХХІ.
**17.15** «Калейдаскоп».
**17.25** «Сімвалы эпохі». Сталоўка.
**17.40** Серыял выхаднога дня. «Дзівоснае падарожжа Мэры Браянт». 1-я і 2-я серыі .
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Сусветнае кіно. «Дні кахання».
**22.55** «Шостае пачуццё Людзвіга Фадзеева». Дакументальны фільм пра выдатнага расійскага матэматыка.
**23.35** «Калейдаскоп».
**23.45** «Сімвалы эпохі». Сталоўка.

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**14.15** Серыял «Дзявяты аддзел».
**16.00** Сёння.
**16.15** Серыял «Дзявяты аддзел».
**18.05** «Следства вялі...».
**19.00** Сёння.
**19.20** Андропаў. Паміж Дзяржынскім і Дон Кіхотам.
**20.30** Новыя рускія сенсацыі.
**21 30 Ты не паверыш!**
**23.15** Мастацкі фільм «Гром лютасці».
**00.50** Авіятары.

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.55** Аб'ектыў.
**08.20** Казкі для дзетак: «Казкі з-за акна», «Прыгоды Ціўкі», «Прыгоды і паходы».
**08.55** «Сонечная дзіда», серыял: 4 серыя.
**09.20** Форум (ток-шоў): Нацыя піратаў.
**10.10** Аўтастопам праз Еўропу: Берлін.
**10.30** «Лонданцы», серыял: 1 серыя.
**11.15** 54 % (публіцыстычная праграма): Жаночы погляд на войска.
**11.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Павел Ян Сапега.
**11.45** Казкі для дзетак: «Казкі з-за акна», «Прыгоды Ціўкі», «Прыгоды і паходы».
**12.15** «Сонечная дзіда», серыял: 4 серыя.
**12.45** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 2 серыя.
**13.35** «Сага стара дадаўняй пушчы», дак. серыял.
**14.30** «Простыя справы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**14.40** МакраФон: «Апошні золак», канцэрт.
**15.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: Уладзімір Арлоў.
**15.55** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: Вера Бурлак.
**16.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Сіндыкат забойцаў».
**16.55** Хто ёсць кім?: «Дранько-Майсюк. Цацачны гандляр з Давыд-Гарадка», рэпартаж.
**17.15** Без рэтушы: «Школа спакушэння», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**17.30** Чаму дэмакратыя? «Жалезныя лэдзі Ліберыі».
**18.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**18.55** Аўтаспынам па Беларусі: Валуны на Гарадзеншчыне (Васілішкі).
**19.15** «Кропка апоры», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**20.20** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Бубачкі», маст. фільм, 2008 г., Чэхія.
**22.50** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 2 серыя.
**23.35** «Глыбокая вада», серыял: 3 серыя.
**00.20** МакраФон: «Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў тэатры «Буфо»»: ч. 2.
**00.55** Аб'ектыў.

TV

## 15 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.10** Меладрама «Жыла-было каханне» .
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 4».
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.50** «Мастакі Парыжскай школы. Выхадцы з Беларусі».
**14.25** Дыялогі пра цывілізацыю.
**15.15** Твой горад.
**15.30** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**15.55** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.05** Меладрама «Канапа для самотнага мужчыны» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Драма «Мадзільяні» (ЗША-Францыя-Германія).
**00.30** Камедыйны серыял «Сваты 4».

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Пакуль усе дома».
**10.25** Мастацкі фільм «Вас чакае грамадзянка Ніканорава».
**12.05** Юры Андропаў. «Праўда, страшней якой няма».
**13.05** Мастацкі фільм «Сапраўднае каханне».
**15.00** Гарады-героі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Канцэрт Леаніда Агуціна.
**17.50** КВЗ. Летні кубак у Сочы.
**20.00** Контуры.
**21.05** Вялікая розніца ТБ.
**22.50** Мастацкі фільм «Галодныя гульні».

### СТВ

**06.15** «Студэнты». Серыял.
**07.55** Фільм «Гран Тарына». ЗША - Германія, 2008 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Чорны замак Альшанскі». Беларусьфільм, 1983г. 2-я серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Прышэльцы 2: калідоры часу». Францыя, 1998г.
**22.55** Шоў «Арганізацыя Вызначаных Нацый».
**00.20** Фільм «Даўнія палюбоўнікі». Францыя, 2009 г.

### Беларусь 2

**07.20** Фільм-казка «Мэры Попінс, да сустрэчы!» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**09.40** Заўтра – гэта мы!
**10.10** Тэлебарометр.
**10.15** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.15** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**12.45** Аўтабатл.
**13.20** Камедыйны трылер «Кабельшчык» (ЗША).
**15.15** Стыль-бюро.
**15.50** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.
**17.20** Футбол. Чэмпіянат свету. Агляд гульнявога дня.
**18.00** Суперлато.
**18.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Швейцарыя - Эквадор. Прамая трансляцыя.
**20.55** Час футболу. Рыа-2014.
**21.40** «Спортлато 5 з 36».
**21.45** КЕНО.
**21.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Францыя - Гандурас. Прамая трансляцыя.
**23.50** Тэлебарометр.
**23.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).

### Беларусь 3

**08.00, 11.55, 21.05, 23.40** «Калейдаскоп».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** Серыял выхаднога дня. «Дзівоснае падарожжа Мэры Браянт». 1-я і 2-я серыі.
**11.15** «Шостае пачуцце Людзвіга Фадзеева». Дакументальны фільм пра выдатнага расійскага матэматыка.
**12.05** «Паясы Вялікага князя Вітаўта». Дакументальны фільм.
**12.50** «На прыродзе з Віталём Гуменным». Запясочча.
**13.05** «Тэатральны ліцэй». Чароўная скрыначка.
**13.30** «Размаўляем па-беларуску».
**13.35** А.Пятроў. «Стварэнне свету». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Фабрыка цудаў». «Аніматар». Дакументальны фільм пра таямніцы стварэння анімацыйных фільмаў.
**15.35** «Музеум». Шэдэўры беларускага іканапісу.
**15.45** «Вінт». Кароткаметражны фільм паводле апавядання А.П.Чэхава.
**16.10** «Росчырк часу». Графік Юрый Якавенка.
**16.20** «Падарожжа са смакам». Іспанія.
**16.50** «Размаўляем па-беларуску».
**16.55** «Наперад у мінулае».
**17.25** Дзіцячы фільм. «Пасля дождычка ў чацвер».
**18.40** «Культпрасвет».
**19.05** Сусветнае кіно. «Дні кахання».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** XIV Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2014». Конкурс маладых выканаўцаў.
**23.15** «Культпрасвет».
**23.40** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Дачны адказ».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**14.15** Вострасюжэтны серыял «Час Сіндбада».
**16.00** Сёння.
**16.15** Вострасюжэтны серыял «Час Сіндбада».
**19.00** Сёння.
**19.20** Вострасюжэтны серыял «Час Сіндбада».
**21.45** Мастацкі фільм «Ваўкадаў».
**00.05** «Школа зласлоўя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы Дабрамір».
**07.55** «Таямніца Сагалі», серыял: 8 серыя.
**08.20** Зона «Свабоды».
**08.55** Хто ёсць кім?: «Дранько-Майсюк. Цацачны гандляр з Давыд-Гарадка», рэпартаж.
**09.20** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.00** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 2 серыя.
**10.50** Чаму дэмакратыя? «Жалезныя лэдзі Ліберыі».
**11.40** Аўтаспынам па Беларусі: Валуны на Гарадзеншчыне (Васілішкі).
**12.00** Моўнік (лінгвістычная праграма): Каму трэба імя па бацьку?
**12.10** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**12.50** «Таямніца Сагалі», серыял: 8 серыя.
**13.15** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**14.10** «Кропка апоры», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**15.15** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 2 серыя.
**16.00** МакраФон: «Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў тэатры «Буфо»»: ч. 2.
**16.30** «Бубачкі», маст. фільм, 2008 г., Чэхія.
**18.05** «НКВД – гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**18.35** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**18.55** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.10** «Фэмэн. Аўтапартрэт», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**20.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Сімяон Полацкі.
**20.20** «Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**21.00** Размовы эксперта.
**21.15** Фільматэка майстроў: «Запавет», маст. фільм, 2007 г., Сербія–Францыя.
**23.20** Лета з дэтэктывам: «Зграя», сенсацыйны серыял: 2 серыя.
**00.15** «Глыбокая вада», серыял: 4 серыя.
**01.00** МакраФон: «Апошні золак», канцэрт.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. ______ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739

УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Плательщик

Кассир

Пеня ________
Всего ________

# Першая лэдзі Украіны №5

Алег НОВІКАЎ

**Не паспела Марына Парашэнка стаць наступнай, пятай у гісторыі Украіны, першай лэдзі, як на старонках украінскіх СМІ і ў сацыяльных сетках вакол яе персоны і сям'і пачаліся баталіі.**







«Яе жыццё пабудавана вакол сям'і, якую яна проста любіць. Дзяцей вучыць гатаваць, вязаць, вышываць, шыць і захоўваць традыцыі», — так характарызуе жыццёвы стыль Марыны Парашэнка адно з украінскіх выданняў. Аднак цяпер ад такой жыццёвай формулы Марыне давядзецца адмовіцца. Пасля абрання яе мужа прэзідэнтам Украіны на яе аўтаматычна накладваюцца абавязкі першай лэдзі, што патрабуе карэкцыі ладу жыцця.

Часткова вялікі інтарэс ва ўкраінскім грамадстве да першых лэдзі справакавала сама апазіцыя, якая дарвалася да ўлады пасля лютаўскай рэвалюцыі. Да таго часу яна ахвотна маніторыла выхады на публіку Людмілы Януковіч, жонкі былога ўкраінскага гаранта. Люся хоць і не была маладой і прыгожай, але вельмі рэлігійнай і вернай жонкай. Аднак будучы пазбаўленая густу і пачуцця такту, яна рабіла шмат канфузаў, якія дыскрэдытавалі як яе мужа, так і ўсю Партыю рэгіёнаў. Дастаткова ўзгадаць яе фразу на мітынгу ў Данецку ў 1994 годзе пра «наколатыя апельсінкі», якія яна быццам бачыла на Майдане.

Па інерцыі ў фокус СМІ трапляе і Марына. Тым болей, што некаторыя называюць яе шэрым кардыналам будучай адміністрацыі. Лічыцца, што яна мае ўплыў на палітычныя і эканамічныя рашэнні, якія прымае Пётр Парашэнка. Усе ведаюць, што менавіта Марына прапанавала свайму мужу займацца кандытарскім бізнэсам, і нават прыдумала славуты брэнд «Рашэн».

Аднак гэта было ўжо ў 1990-я гады. А пачыналіся іх адносіны ў савецкія 1980-я. Пётр і Марына пазнаёміліся на студэнцкай дыскатэцы. У той час ён вучыўся ў інстытуце міжнародных адносін імя Тараса Шаўчэнкі, яна — на кардыёлага ў Медінстытуце.

Сустракацца яны пачалі толькі праз паўгода, калі студэнтаў накіравалі збіраць ураджай у калгас. Праз год Марына і Пётр вырашылі пабрацца шлюбам. Але адразу пасля падачы заявы ў ЗАГС, роўна за тыдзень да вяселля, Пятру Парашэнку прыйшла позва з ваенкамату — тады студэнтам ВНУ адтэрміноўкі не давалі. У выніку ў войска яго забралі з адтэрміноўкай роўна на 10 сутак, каб згуляць вяселле.

Сапраўднае сямейнае жыццё пачалося пасля вяртання Пятра Парашэнкі з арміі. Сям'я ў новага прэзідэнта трывалая, са стажам амаль у трыццаць гадоў. У Парашэнкі чацвёра дзяцей: старэйшы Аляксей, дачкі-блізняты Аляксандра і Яўгенія і малодшы Міша. Дзеля сямейнага шчасця Марына ахвяравала кар'ерай медыка: у свой час яна паспела абараніць дысертацыю (так выпадкова сталася, што гэта была першая дысертацыя, якую наогул абаранілі ў часы незалежнай Украіны).

Цяжка сказаць, ці зможа Марына Парашэнка захаваць гэтую ідылію. Пасля выбараў яна і ўсе сямейнікі сталі топавымі медыйнымі фігурамі. А з улікам палітычнай палярызацыі, гэта не проста спажывецкі інтарэс. На Марыну транслююць свае сімпатыі і антыпатыі прыхільнікі і праціўнікі Майдану.

Прычым ацэнкі іх вельмі катэгарычныя. Так, у сеціве выбухнула ўвогуле дастаткова некарэктная дыскусія наконт прыгажосці новай украінскай першай лэдзі. Як і трэба было чакаць, майданаўцы лічаць яе эталонам, асабліва ў параўнанні з кабетамі палітыкаў, якія знаходзяцца ў варожым лагеры.

«Наколькі я бачыла фота, Марына аддае перавагу «Шанэль», гэта кажа пра добры густ. Гэта вам не баба Януковіча, і нават не Людміла Пуціна», — піша нейкая блогер Алёна. З ёй згодны блогер V: «Такога высокага класу жанчын толькі ў еўрапейскіх каралеўскіх дынастыях даводзілася бачыць! Усе гэтыя Люсі, пуціны і мядзведзіха, можа і нядрэнныя людзі, але пастаў побач з ёй — недагрызкі».

Думкі антымайданаўцаў на гэты конт татальна іншыя. «На раскошную бабу не падобная, нейкая яна замучаная» (блогер з Данецку). «Жанчына як жанчына, пры іх грошах выглядаць дрэнна нельга, а вось погляд яскравай сцервы» (блогер Арно).

Козырам фанатаў Марыны з'яўляюцца моцная сям'я Парашэнкі. Гэта выглядае яўным кантрастам з формулай шлюбнага жыцця экс-прэзідэнта Януковіча, які адправіў законную жонку Людмілу ў ссылку ў Данецк, а сам пасяліў у Міжгор'і сваю зямлячку, даму сэрца Любу Паляжай. Так што цяпер суграмадзянам не прыйдзецца адчуваць няёмкасць за маральныя асновы ў прэзідэнцкай сям'і.

Не маючы на гэты конт аргументаў, крытыкі Марыны ахвотна ўзгадваюць фігуру Аляксея, старэйшага сына Пятра Парашэнкі. Яго абвінавачваюць у лабіраванні бізнэс-інтарэсаў кампаніі «Рашэн» падчас працы дыпламатам у Кітаі. У дадатак яму ўсяго 30 гадоў, таму антымайданаўцы ахвотна цвеляць сваіх праціўнікаў правакацыйным пытаннем: «Пяцюня, а адпусціш свайго старэйшанькага ў АТА на Данбас? Бо ты ж патрыёт! Дый прыклад іншым патрыётам трэба даць!» Чапляюцца і за той факт, што Марына старэйшая за Пятра на тры гады. Быццам, шлюб паміж імі быў па разліку. Марына была не з простых дзяўчат, а дачкой намесніка міністра аховы здароўя УССР.

Наўрад ці гэта палеміка вакол Марыны закончыцца пасля 7 чэрвеня, калі Пятро Парашэнка афіцыйна стане прэзідэнтам. Першая лэдзі — вельмі важная фігура для выпрацоўкі стаўлення пазіцый людзей адносна прэзідэнта.

Тым болей, што новы прэзідэнт па сутнасці застаецца цёмным канём ва ўкраінскай палітыцы. Ён выйграў выбары хутчэй дзякуючы запыту на стабільнасць і папулярнасці ідэі выбараў у адзін тур. Аднак канкрэтнага палітычнага амплуа новага гаранта ніхто не ведае. Ён быў на Майдане, аднак раней ён таксама быў у камандзе Януковіча. Тое ж самае тычыцца і Марыны Парашэнка. Фактычна, толькі зараз нам давядзецца даведацца, хто такі Пётр Парашэнка і яго першая лэдзі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Дзеянні Масквы кажуць пра адраджэнне яе імперскіх амбіцый, і Беларусь з Казахстанам могуць паспрабаваць спраецыраваць цяперашнюю сітуацыю на Украіне на сябе. Напрыклад, у Расіі прынята называць беларусаў брацкім народам, але нядаўна гэтак жа называлі і ўкраінцаў, што, тым не менш, калі спатрэбілася, не перашкодзіла Маскве перайсці да выкарыстання ў дачыненні да іх такіх тэрмінаў, як «фашысты» і «бандэраўцы». Ні Беларусі, ні Казахстану не патрэбны аналаг Савецкага Саюза з ваенна-палітычным дамінаваннем Масквы: іх аўтарытарныя лідары больш за ўсё баяцца страціць сваю абсалютную ўладу, а імперскія амбіцыі Расіі актуалізуюць гэтую пагрозу.

**«Geopolitika» (Літва)**

За студзень-люты 2014 года Венесуэла паставіла ў Беларусь тавараў на 400 долараў. Венесуэла імкліва нарасціла тавараабарот з Беларуссю падчас апошняй беларуска-расійскай «нафтавай вайны», калі Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да паслуг Уга Чавеса, спрабуючы прадэманстраваць незалежнасць постсавецкай рэспублікі ад расійскіх паставак нафты. Пасля крызісу 2011 года ў афіцыйнага Мінска скончыліся рэсурсы на такія маштабныя прапагандысцкія праекты, лічаць эксперты. Яны таксама звярнулі ўвагу на зніжэнне канкурэнтаздольнасці беларускіх тавараў і ў Расіі, дзе канкурэнцыя пасля ўступлення ў СГА істотна вырасла.

**REGNUM (Расія)**

На папярэдняй сустрэчы лідараў Беларусі, Расіі і Казахстана, якая адбылася 6 мая, Лукашэнка і Назарбаеў усімі сіламі адмаўляліся падпісваць што б там ні было. Таму і выніковы дакумент, пад якім яны ўсё ж паставілі свае подпісы, не кажа нічога канкрэтнага аб асноватворных прынцыпах аб'яднання: так, стварэнне адзінага энергетычнага рынку і агульнай біржы нафты і газу пакінулі на больш позні тэрмін. Пуціну так і не ўдалося пераканаць сваіх паплечнікаў па Еўразійскаму саюзу ў тым, што ён прынясе ім бясспрэчную выгаду. Беларусь і Казахстан па-ранейшаму асцерагаюцца свайго магутнага суседа. Масква прыцягнула іх у саюз абяцаннямі субсідый і крэдытаў у абмен на іх геапалітычныя рэсурсы.

**«Le Monde» (Францыя)**

Адбіраючы ў Пуціна манаполію на перамогу Савецкага Саюза ў Другой сусветнай вайне, Захад аднаўляе гістарычную справядлівасць. Але было б натуральным не абмяжоўвацца запрашэннем у Нармандыю толькі Парашэнкі. Справядлівым у адносінах да мільёнаў беларусаў, якія загінулі ў гады вайны, было б запрашэнне ў Нармандыю і прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Ён, у адрозненне ад Уладзіміра Пуціна, вайну не развязваў.

**«Дзеркало тижня» (Украіна)**

Краіны СНД імкнуцца альбо нічога не гаварыць з нагоды ўкраінскага крызісу, альбо неяк лавіраваць. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, будучы упэўненым, што Расія ўсё роўна ад яго нікуды не дзенецца, паводзіць сябе адносна незалежна. Ён сустракаўся з выконваючым абавязкі прэзідэнта Украіны Аляксандрам Турчынавым і іншымі прадстаўнікамі новай кіеўскай улады, ён заяўляў, што Украіна застаецца для Беларусі брацкай краінай і г.д. Што ж тычыцца іншых дзяржаў, то ім гэта не трэба. Гэта не іх вайна.

**«Эхо» (Азербайджан)**

Аб'яднанне ЕАЭС у цэлым выйгрышна больш за ўсё для Беларусі. Паводле прыкладных ацэнак, гэта дасць яе эканоміцы да трох мільярдаў долараў у год, для іх гэта вельмі вялікія грошы. У Казахстане і Расіі існуе хранічны дэфіцыт тэхнічных спецыялістаў. Тыя, хто атрымліваў адукацыю ў Савецкім Саюзе, — альбо ўжо на пенсіі, альбо блізка, а сістэма падрыхтоўкі пры гэтым была практычна разбурана. У Беларусі ж яна захавалася. Потым беларусы яшчэ сумленныя, добрыя, працавітыя людзі, груба кажучы — яны не крадуць. І будуць вельмі карысныя для Расіі і Казахстана, у прыватнасці, у малым і сярэднім бізнэсе. З магчымых наступстваў варта адзначыць таксама, што Лукашэнка цалкам можа пайсці на частковую прыватызацыю на карысць Расіі і Казахстана. Прыватызацыя, скажам, беларускіх НПЗ, зняла б усе пытанні пра пошліны і іншыя праблемы.

**«ТАСС-Аналитика» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Дэбаты аб праве кроўнай помсты ў Чачні

У Чачні разгарнуліся незвычайныя тэалагічныя дэбаты — ці маюць родныя чачэнцаў, якія загінулі на Данбасе, змагаючыся з украінскімі сілавікамі, права помсціць за іх у рамках звычаю крывавай помсты. Як вядома, у перыяд з 28 па 29 мая на тэрыторыю Чачні, па словах мясцовых жыхароў, былі даствлены ад 35 да 45 загінулых выхадцаў з рэспублікі, якія ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях у Данецкай вобласці Украіны. Забітыя на Украіне камбатанты былі пахаваны ў Чачні без шырокай агалоскі, паведамляюць мясцовыя жыхары. Аднак, як піша прэса, некаторыя родныя забітых вырашылі стаць «кроўнікамі». Мясцовае духавенства, аднак, выказалася супраць такой ініцыятывы. Па іх меркаванні, гэта правіла не тычыцца прадстаўнікоў немусульманскай рэлігіі. Іншыя сцвярджаюць, што рашэнні аб кроўнай помсце маюць права прымаць не родны забітага, а сход старэйшынаў. Урэшце, некаторыя імамы лічаць, што нельга помсціць за чалавека, калі ён пайшоў на вайну не як добраахвотнік, а як наёмнік.

**Паводле расійскай прэсы**

### РУМЫНІЯ. Выйшаў на волю генерал Стэнкулеску

Віктар Стэнкулеску — генерал, які камандаваў разгонам Снежаньскай рэвалюцыі ў Румыніі ў 1989 годзе, — датэрмінова выйшаў з турмы. Адпаведнае рашэнне прыняў спецыяльны трыбунал. Генерал, якому летась споўнілася 86 гадоў, быў асуджаны да 15 гадоў турмы за крывавы разгон рэвалюцыйных пратэстаў, якія прывялі да зверажэння рэжыму Чаўшэску. За краты Стэнкулеску быў змешчаны ў кастрычніку 2008 года разам з іншым міліцэйскім генералам і адбыў трэціну свайго турэмнага тэрміну. У мінулым годзе Стэнкулеску прасіў аб амністыі. Аднак яму адмовілі, нават нягледзячы на тое, што ў здароўі вайскоўца выявілі 12 паталогій. Праз год суддзі аказаліся больш спагадлівыя. Праўда, каб амніставаць Стэнкулеску, была падстава. Віктар Стэнкулеску па загадзе Чаўшэску, сапраўды, жорстка задушыў хваляванні ў Цімішаары ў 1989 годзе, аднак праз тры дні адмовіўся паўтараць гэтыя ж дзеянні ў Бухарэсце, што і прывяло да падзення рэжыму.

**Паводле румынскай прэсы**

### УКРАІНА. Вяртанне Чарнавецкага

Аналізуючы вынікі выбараў у Кіеўскую гарадскую раду, палітолагі канстатуюць цікавы трэнд. Пад сцягамі партыі «УДАР» (лідар Віктар Клічко) у мэрыю вярнуліся людзі з каманды Леаніда Чарнавецкага. Нагадаем, што Леанід Чарнавецкі быў мэрам Кіева ў 2006–2010 гадах і праславіўся сваімі экстравагантнымі ўчынкамі, накшталт таго, што абавязаў усе крамы прадаваць запісы сваіх песняў, пісаў паштоўкі слану ў гарадскі заапарк і г.д. Пакуль публіка смяялася з яго камічных учынкаў, у мэрыі поўным ходам ішло раскраданне муніцыпальнай уласнасці. У выніку шэрагу скандалаў Чарнавецкі напісаў заяву пра дабраахвотны сыход у адстаўку. Цяпер жа аказваецца, што Лёня-космас (мянушка Чарнавецкага) вяртаецца. Дэпутатамі ў Кіеўраду абраны шэраг людзей з яго каманды, прычым у большасці па лініі партыі «УДАР». Рэакцыя на гэтыя навіны розная. Адны кажуць, што гэта сведчыць пра тое, што Майдан нічога не змяніў. Другія звяртаюць увагу, што пры ім было не толькі кепскае. Напрыклад, бюджэт Кіева павялічыўся ў 5 разоў. Найбольш забаўны каментар выдаў Алег Ляшко — лідар Радыкальнай партыі. Па яго словах, у Кіеўскі гарсавет «пралезла» каманда Чарнавецкага — «карупцыянеры, злодзеі і хабарнікі», якія будуць круціць тым Клічко, як цыган сонцам, яны будуць ім маніпуляваць, яны будуць яго выкарыстоўваць». У сувязі з гэтым партыя Ляшко, па словах яе правадыра, пераходзіць у апазіцыю да Клічко.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Вялікая казахская тапанімічная рэвалюцыя

Намеснік міністра культуры Казахстану Жанай Амараў пазнаёміў грамадскасць з планам радыкальнай рэформы тапанімікі. Яе задача — вярнуць на карту краіны ўсе старыя назвы населеных пунктаў, якія былі тут не толькі да СССР, а нават да пачатку расійскай каланізацыі (прыкладна да сярэдзіны XIX стагоддзя). «Вяртанне ранейшых гістарычных імёнаў нашым населеным пунктам, геаграфічным аб'ектам — гэта вельмі важнае пытанне, — адзначаў чыноўнік. — Праца чакаецца вялікая. Важна тое, што ўсе казахскія назвы, якія маюць гістарычнае і духоўнае значэнне, павінны быць вернуты краіне і народу». Па яго словах, сёлета ў шасці абласцях краіны пераназвалі 42 гарады і мястэчкі. Але гістарычныя і традыцыйныя назвы атрымалі толькі два з іх. Па меркаванні Амарава, гэта звязана з тым, што адсутнічае ўзважаны падыход, а рашэнні пра пераназванне часта дыктуюцца зменай рэгіянальных уладаў. Паведамляецца таксама, што на дадзены момант у Казахстане каля 40% населеных пунктаў носяць назвы з часоў царызму і СССР.

**Паводле казахскай прэсы**

# Ці трэба іспанцам Бурбон?

*Алег НОВІКАЎ*

**Хуан Карлас I, кароль Іспаніі, адмовіўся ад трону на карысць свайго сына Феліпэ. Аднак аналітыкі не ўпэўненыя, што ў Іспаніі захаваецца канстытуцыйная манархія.**



Хуан Карлас I

Хто як, а Хуан Карлас увайшоў у гісторыю двума гістарычнымі тэлевыступамі.

Першы меў месца ў лютым 1981 года, калі рэакцыйная частка арміі паспрабавала арганізаваць дзяржаўны пераварот. Вайскоўцы захапілі будынак парламенту з надзеяй, што манарх падтрымае намер вярнуць франкісцкія парадкі. Аднак Хуан Карлас не паддаўся спакусе. У сваім тэлевізійным выступе ён пацвердзіў дэмакратычны выбар Іспаніі.

Тая прамова зрабіла яго кумірам дэмакратычнай грамадскасці. У гісторыі застаўся незвычайны выпадак, калі Санцьяга Карыла, тагачасны лідар толькі што легалізаваных камуністаў, якія бачылі ў манархіі арганічнага спадчынніка дыктатуры Франко, у лісце на адрас караля напісаў: «вялікі дзякуй». Што ўжо казаць пра просты люд, які святкаваў перамогу дэмакратыі на вуліцах. Пасля гэтай гісторыі Хуан Карлас адабраў у каралевы Елізаветы на доўгі час тытул самага папулярнага манарха ў Еўропе.

Як жа рэакцыя людзей на выступ Хуана Карласа ад 2 чэрвеня гэтага года адрозніваецца ад той, узору 1981 года. Людзі таксама, як і 33 гады таму, выбеглі на вуліцу. Аднак на гэты раз імі рушыла не пачуццё ўдзячнасці каралю, а, наадварот, жаданне дамагчыся скасавання ў Іспаніі манархічнага ладу. «Раніцай Іспанія стане рэспублікай!» — скандавалі натоўп практычна ў кожным вялікім горадзе Іспаніі. Літаральна за лічаныя гадзіны петыцыя з патрабаваннем скасаваць манархію сабрала ў інтэрнэце каля 70 тысяч подпісаў.

Паміж гэтымі двума тэлевыступамі ляжыць эпоха трансфармацыі вобраза Хуана Карласа ў вачах нацыі. На нейкім этапе створаны на пачатку 1980-х гадоў вобраз караля — прыхільніка дэмакратыі і перамен — паступова знік. На яго месцы з'явіўся новы. З нейкага часу імя караля стала выклікаць асацыяцыі з рознымі карупцыйнымі аферамі ў каралеўскай сям'і.

Не прабачылі людзі каралю і сафары ў 2012 годзе ў Батсване, дзе кароль паляваў на сланоў. Паляванне каштавала бюджэту каля 600 тысяч еўра. І гэта ў час, калі ў Іспаніі ўжо напоўніцу лютаваў крызіс. Змешчаны ў інтэрнэце фотарэпартаж з Афрыкі выклікаў калектыўнае пачуццё агіды. У дадатак да ўсяго Хуан Карлас з'яўляўся адным з ганаровых старшыняў фонду аховы дзікіх жывёл. У дадатак выявілася, што ў той вояж кароль адправіўся не з каралевай, а з адной нямецкай арыстакраткай.

Не паспелі неяк забыцца пра той скандал, як выбухнуў новы. Стала вядома, што муж прынцэсы Крысціны замешаны ў выкраданні публічных грошаў (сума вымяраецца мільёнамі еўра). У выніку зяцю прад'явілі абвінавачанне, а ў лютым гэтага года ў пракуратуру выклікалі і саму Крысціну.

У прынцыпе, эрозія папулярнасці манархіі ў наш час дастаткова лагічная. Па ходу таго, як палацавы этыкет стаў не такі жорсткі, чальцы каралеўскай сям'і расслабіліся. Стала відавочна, што гэта простыя людзі са сваімі забабонамі, якіх падтрымлівае далёка не ўся нацыя. Напрыклад, рашэнне інфанты ў 2009 годзе скасаваць шлюб вітала прагрэсіўная фракцыя іспанскага соцыуму. Для кансерватараў жа гэта быў замах на традыцыю і рэлігію. У выніку стаўленне да манархіі паступова стала больш пярэстым.

Тым не менш, хаця апошнім часам кароль і не біў рэкорды папулярнасці (зараз яго падтрымка — прыкладна 41 працэнт), яго сыход дастаткова нечаканы. І раней некалькі разоў яго рэйтынг вельмі моцна падаў, аднак ён мужна пераносіў капрызы сваіх вернападданых. Адна з яго сваячак неяк паведаміла журналістам, што кароль прыняў прынцыповае рашэнне «памерці ў ложку ў статусе караля». На думку шмат каго, рашэнне пра адстаўку можа быць абумоўлена здароўем былога караля. Апошні выхад Хуана Карласа на публіку ў студзені гэтага года засведчыў, што яму было відавочна цяжка прачытаць тэкст.

Цяпер, паводле дынастычнага закону, на трон мае права сесці сын Хуана Карласа Феліпэ (46 гадоў) пад тытулам Феліпэ VI, якога сам манарх у сваім тэлевыступе назваў «інкарнацыяй стабільнасці». Феліпэ з самага дзяцінства рыхтавалі да гэтай місіі. Ён, як і належыць каралю, мае вайсковую адукацыю. Цікава, што яго жонка, будучая каралева, Леціцыя ў маладосці тусавалася з рэспубліканцамі.

Аднак каранацыя пакуль усё ж пад пытаннем. У іспанскім грамадстве папулярная ідэя правядзення рэферэндуму аб мэтазгоднасці захавання манархіі. Маторчыкам руху за плебісцыт з'яўляюцца партыі, якія знаходзяцца на левым флангу за сацыялістамі, а менавіта: былая кампартыя, Зялёныя, кааліцыя «Podemos». На апошніх трэба спыніцца асобна. Гэта дастаткова ўнікальны праект, паколькі ён узнік літаральна напярэдадні выбараў у еўрапарламент і змог сабраць каля 10 працэнтаў, што дазволіла «Podemos» атрымаць 6 мандатаў.

Асобна трэба сказаць пра антыманархісцкія пратэсты ў Краіне Баскаў і ў Каталоніі, дзе яны мелі нацыяналістычны прысмак. Тутэйшыя нацыяналісты спадзяюцца, што канстытуцыйная рэформа, непазбежная ў выпадку скасавання манархіі, дазволіць папоўніць тэкст Асноўнага закону пунктам, які дае права малым народам на самавызначэнне.

З іншага боку, не трэба штучна гіпербалізаваць іспанскі рэспубліканскі рух. Сапраўды, маніфестацыі за рэспубліку ўвечары 2 чэрвеня мелі месца больш чым у 100 гарадах краіны. Нават у замежжы іспанская грамадзяне пікетавалі пасольствы. Аднак самая вялікая з іх на цэнтральнай мадрыдскай плошчы сабрала не больш за 20 тысяч чалавек. Вядучыя партыі — кансерватыўная Народная партыя і левацэнтрысты з Іспанскай «Рабочай аб'яднанай партыі» (PSOE) ужо заявілі, што застануцца вернымі канстытуцыі 1978 года. Яны прагаласавалі за закон, які дазваляе Феліпэ ў бліжэйшы час узыйці на трон.

Феліпэ больш папулярны за свайго бацьку — яго рэйтынг папулярнасці каля 66 працэнтаў. Асобую ролю ў шарме Феліпэ і манархіі належыць прынцэсе Леціцыі. Яна — былая журналістка, вельмі папулярная сярод сярэдняга класу.

Аднак прыняты закон пра караля Феліпэ не значыць, што сітуацыя будзе развівацца менавіта па такім сцэнары. Шмат што будзе залежаць ад маштабаў мабілізацыі, якую рэспубліканцы абвясцілі на гэтыя выходныя. Калі яны змогуць правесці шырокія акцыі, то не выключана, што ў лагер «якабінцаў» пяройдуць прафсаюзы і частка PSOE. Тым больш, што PSOE у сувязі з патрабаваннем Каталоніі аб незалежнасці даўно кажа пра неабходнасць канстытуцыйнай рэформы. Рэферэндум «за» або «супраць» манархіі, на думку шмат каго, мог бы стаць часткай гэтай рэформы.

Ёсць яшчэ адзін плюс на карысць версіі аб узаемазалежнасці каранацыі з рэферэндумам. Каранацыя — рэч вельмі дарагая, і відавочна, што браць грошы з бюджэту ў час крызісу стане моцным ударам па інстытуту манархіі. З іншага боку, не праводзіць багатую каранацыю таксама несур'ёзна. Выхадам можа быць плебісцыт, калі народ сам дабраславіць Феліпэ быць каралём, а значыць, рабіць усё, што заўгодна.



# Лівія — чарговая рэвалюцыя

Алег НОВІКАЎ

**19 мая, прыкладна праз тры гады пасля звяржэння Муамара Кадафі, у Лівіі адбылася новая рэвалюцыя.**

Кур'ёз апошняй рэвалюцыі ў тым, што яна — справа рук антыкадафістаў — практычна аднавіла дзяржаўны лад, які існаваў пры Кадафі. Уся ўлада ў дзяржаве, як і ў часы Джамахірыі, належыць аднаму чалавеку. Гэта Халіфа Хафтар — вайсковы генерал і аўтар перавароту, для рэалізацыі якога спатрэбілася ўсяго пару дзён.

16 мая генерал без згоды ўраду аддаў загад атакаваць базы ісламскай міліцыі ў Бенгазі на падставе таго, што «міліцыянеры» датычныя да нядаўняга нападу на мясцовае консульства ЗША. У выніку аперацыі праўрадавым часткам удалося заняць кантрольныя кропкі ў горадзе.

Аднак на гэтым аперацыя «Годнасць» — так называлася акцыя — не закончылася. 17 мая генерал склікаў прэс-канферэнцыю, на якой заявіў, што Нацыянальны лівійскі кангрэс (парламент краіны) больш не выказвае волю лівійцаў і па сутнасці пакрывае дзейнасць ісламскіх фанатыкаў. Дзеючы ўрад зняў генерала з пасады і раскрытыкаваў аперацыю «Годнасць», паколькі яна магла выклікаць новую хвалю канфрантацыі.

18 мая вайскоўцы нечакана з'явіліся ў цэнтры Трыпалі і захапілі ўрадавы квартал. Дзеючы прэм'ер пратэставаў, заявіўшы, што ў краіне адбываецца дзяржаўны пераварот, аднак спыніць працэс ужо быў не ў стане. На наступны дзень большасць вайскоўцаў падтрымала путч. Хутка, як гэта звычайна і бывае, на бок пераможцаў пачалі перабягаць і дэпутаты парламенту. Ужо 25 мая яны дружна зацвердзілі новы кабінет, адначасова надаўшы Хафтару надзвычайныя паўнамоцтвы. Старому прэм'еру не заставалася нічога іншага, як збегчы з краіны.

Адказ на пытанне, чаму лівійцы, якія пару гадоў таму так заўзята змагаліся з дыктатурай, цяпер патрабуюць вяртання моцнай рукі, відавочны. Арабская вясна ў Лівіі ператварылася, паводле метафары аднаго брытанскага журналіста, у «арабскую зіму». Рэвалюцыя прынесла разбурэнне гаспадаркі, інфраструктуры і вакуум улады. Ілюстрацыяй дэградацыі стала з'яўленне лівійскіх гастарбайтэраў у Алжыры. Яшчэ тры гады таму гэта з'ява здавалася немагчымай. Гэта прыкладна тое ж самае, каб жыхары Масквы ездзілі працаваць сезоннымі рабочымі ў Малдову.

Спраўдзіліся прагнозы скептыкаў, якія звярталі ўвагу на тое, што лівійцы, якія 30 гадоў жылі пры дыктатуры, не знаёмыя нават з элементарнымі прынцыпамі дэмакратыі. У такіх умовах імклівая трансфармацыя да грамадзянскай супольнасці, нават пры каласальных запасах нафты, немагчымая. Што тычыцца калектыўнай свядомасці, то ёй будуць уласцівыя самыя прымітыўныя і агрэсіўныя настроі.

У некаторым сэнсе так і адбылося. У Лівіі дамінуюць трабайлізм, сепаратызм і радыкальны ісламізм або іх гібрыды. Гібрыдным — сепаратысцка-ісламісцкім —можна лічыць рэжым у Бенгазі, які цэнтр не кантралюе ўжо год. Тут яшчэ ў лістападзе мінулага года абвешчана аўтаномія Кірэнаіка, аўтары якой зараз, калі верыць французскай прэсе, маральна гатовыя абвесціць незалежнасць.

Кірэнаіка — не адзіная зона ў Лівіі, якая патрабуе аўтаноміі. Пад аналагічнымі лозунгамі выступаюць жыхары рэгіёну Фезан, што на поўдні краіны. З ідэямі стварэння свайго аналагу ДНР носіцца і племя Тубут — чарнаскурыя лівійцы, якія жывуць на мяжы з Чадам. Думаецца, адзінае, што дасюль не дазволіла ім заняцца сепаратызмам напоўніцу, гэта крывавыя разборкі з суседнімі арабскімі плямёнамі.

Акрамя таго, павагі з боку дзяржавы да сябе патрабуюць берберы. У жніўні мінулага года прадстаўнікі берберскай меншасці Лівіі штурмавалі будынак парламента ў Трыпалі, патрабуючы прызнаць у будучай канстытуцыі іх нацыянальную прыналежнасць, мову і культуру. Дарэчы, берберы складаюць каля 10 працэнтаў насельніцтва Лівіі.

Яшчэ адзін цікавы від лівійскага сепаратызму — муніцыпальны. Так, у горадзе Місрата ўся ўлада знаходзіцца ў руках гарадскога савету. Ратуша здолела навесці парадак у падпарадкаваным арэале, ператварыўшы Місрату ў дзяржаву ў дзяржаве. Больш таго, горад, як піша прэса, у эканамічным плане нават квітнее. Праўда, гэта не можа быць алібі для Хафтара. Калі новы рэжым збіраецца заняцца ўніфікацыяй краіны, аўтаномія Місраты мусіць быць ліквідаваная.

Мяркуючы па ўсім, генерал і яго праект з'яўляецца крэатурай Захаду. Пра гэта сведчыць, па-першае, біяграфія вайскоўца. Хафтар нарадзіўся ў 1943 годзе і спачатку быў блізкім да Муамара Кадафі. Падчас вайны з французамі за Чад трапіў у палон. У палоне ён перагледзеў свае погляды і пачаў працаваць з лівійскай апазіцыяй у замежжы. Адначасова зрабіў някепскую кар'еру ў складзе амерыканскіх спецслужбаў (Хафтар — грамадзянін ЗША). У 2011 годзе, пасля пачатку пратэстаў супраць Кадафі, вярнуўся на радзіму і дапамог паўстанцам стварыць вайсковыя структуры. Пасля перамогі антыкадафістаў ён нейкі час знаходзіўся ў ценю, займаючы розныя вайсковыя пасады, каб з лютага гэтага актыўна ўключыцца ў палітыку.

Натуральна, праз тыдзень пасля таго, як Хафтар прыйшоў да ўлады, рана нешта прагназаваць. Можна выключна казаць, што крэдыт даверу ў новага рэжыму пакуль ёсць. 19 мая па ўсёй краіне прайшлі стыхійныя дэманстрацыі, удзельнікі якіх неслі транспаранты накшталт «Дзякуй, Хафтар, за тое, што Лівія не будзе новым Афганістанам», «Так — арміі! Так — паліцыі» і г.д. Ужо прапанавана зрабіць 19 мая дзяржаўным святам — «Пятніца годнасці». Адначасова частка блізкіх да ісламістаў сяброў парламенту заявілі аб пачатку вайсковага супрацоўніцтва.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Леанід Цібілаў



Прэзідэнт самаабвешчанай рэспублікі Паўднёвая Асеція выказаў меркаванне, што Паўднёвая Асецыя можа ўвайсці ў склад Расіі, а дакладней, далучыцца да Паўночнай Асеціі. «Гэтая ідэя сядзіць у кожным з нас, падзелены народ Асеціі павінен быць адзіны», — заявіў Цібілаў у інтэрв'ю аднаму з расійскіх СМІ. Па яго словах, для такога акту проста не хапае спрыяльнага моманту. Словы чыноўніка можна было разглядаць як чарговы піяр, асабліва з улікам таго, што прапанова наконт інкарпарацыі рэгіёна ў склад Расіі гучыць у Цхінвалі не першым разам. Аднак, на думку экспертаў, на гэты раз справа больш сур'ёзная за папулізм. Жыхароў Паўднёвай Асеціі, гаспадарка якой на сто адсоткаў залежыць ад Масквы, натхніў прыклад Крыма і Севастопаля, якія пасля рэферэндуму 16 сакавіка былі ўключаныя ў склад Расійскай Федэрацыі і атрымалі за гэта рознага кшталту бонусы. Аналітыкі мяркуюць, што ідэя далучэння Паўднёвай Асеціі да Расіі будзе абавязкова агучвацца падчас выбараў у мясцовы парламент, якія прызначаныя на чэрвень. Сам Цібілаў прызнаў, што «некаторыя партыі ўжо выступілі з ініцыятывамі правядзення рэферэндуму».

### Юліус Малема



Паўднёваафрыканскі палітык праславіўся тым, што быў выключаны з ўрадавай партыі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» за заклікі нацыяналізаваць маёмасць белых. Цяпер ён атрымаў новую — парламенцкую — пляцоўку, каб палохаць істэблішмент. Створаная ім партыя «Рух за эканамічную свабоду» атрымала на выбарах у парламент 6,3 працэнта галасоў. За яе кандыдатаў прагаласавалі больш за мільён выбаршчыкаў, што дазволіла дасылаць у парламент 25 дэпутатаў. Больш за тое, «Рух за эканамічную свабоду» стаў трэцяй па колькасці дэпутатаў фракцыяй. Поспех Малемы можна лічыць сенсацыяй не толькі з улікам радыкалізму праграмы (яна патрабуе экспрапрыяцыі і нацыяналізацыі ўсяго, чаго толькі магчыма). Не зразумела, якім чынам палітык вырашыў праблему фінансаў, што стаіць перад кожнай партыйнай структурай. «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» ужо заявіў, што Малему фінансаваў рэжым у суседнім Зімбабве. Мясцовы дыктатар Робер Мугабе вельмі сімпатызуе радыкалам Паўднёвай Афрыкі. У сваю чаргу, палітолагі кажуць, што вялікіх грошай Малеме на кампанію не спатрэбілася. Яго скандальнасць прынесла яму папулярнасць сярод моладзі, якая расчаравалася ў «Афрыканскім нацыянальным кангрэсе», што доўгі час манапалізаваў праблему расавай роўнасці. Паводле сацыялагічных даследаванняў, усім выбаршчыкам «Руху за эканамічную свабоду» менш за 24 гады, усе яны чарнаскурыя і належаць да бедных слаёў насельніцтва.

### Томас дэ Мэз'ер



Міністр унутраных спраў ФРГ за два тыдні да адкрыцця чэмпіянату свету па футболу ў Бразіліі заклікаў, каб усе футбалісты зборнай Германіі абавязкова спявалі на полі нацыянальны гімн (паводле традыцыі, кожны міжнародны матч пачынаецца з выканання гімнаў краін). Праблема ўзнікла не на пустым месцы. Шматлікія ўдзельнікі зборнай ФРГ не з'яўляюцца этнічнымі немцамі і кепска ведаюць германскія звычаі. Напрыклад, нямецкі футбаліст цюркскага паходжання Мезут Озіл прызнаўся, што падчас выканання гімну чытае малітву з Карану. Акрамя таго, нямецкая грамадскасць ФРГ не ў захапленні ад цяперашняга варыянту гімну, паколькі тая ж песня была дзяржаўным гімнам у нацысцкай Германіі з невялікай папраўкай. Вось і цяпер грамадскасць адразу раскрытыкавала ініцыятыву міністра. На думку крытыкаў, гімн — не тая песня, якую трэба прымушаць спяваць. Застаецца дадаць, што ўжо пасля заклiку міністра Германія правяла матч з Камерунам. Падчас выканання мелодыі гімну тры чалавекі ў зборнай слухалі яго моўчкі. Гэта згаданы вышэй Озіл, а таксама футбалісты афрыканскага і арабскага паходжання.

# Апошняя просьба Генадзя Бураўкіна

Сяргей ШАПРАН

**Апошні раз мы бачыліся 27 мая — разам з Уладзімірам Някляевым і Глебам Лабадзенкам прынеслі Генадзю Мікалаевічу яго новую паэтычную кнігу «Нагаварыцца з зоркамі», сігнальны экземпляр якой з'явіўся ў той самы дзень. Такім чынам мы выканалі галоўнае жаданне паэта, пра якое ён гаварыў у апошні тыдзень свайго жыцця.**

...15 мая нечаканы тэлефонны званок: «Сярожа, як твае справы?» Гэта быў Бураўкін. Я разгубіўся, бо ведаў, што Генадзь Мікалаевіч цяжка хварэе, практычна ніхто патрапіць да яго не можа, а тут раптам гэты званок. Пачаўшы нешта гаварыць пра падрыхтоўку Быкаўскіх кніг, я хутка зразумеў, што ён тэлефануе не за тым, каб я цяпер распавядаў пра свае справы, — мусіць, у яго пэўная патрэба ўва мне.

І сапраўды, Бураўкін папрасіў завітаць да яго, асабліва не адкладваючы, заўважыў — не на кароткі час. «Добра, заўтра ж і буду. А як Ваша здароўе?» — «Давай не будзем пра гэта», — сказаў Бураўкін зусім іншым, змяніўшымся галасам...

Праўда, я быў у яго толькі праз дзень, бо на заўтра да яго завітаў нехта з маскоўскіх гасцей, хоць Генадзь Мікалаевіч пасля пытаўся ў сваёй жонкі Юліі Якаўлеўны, ці тэлефанаваў я. Зрэшты, нават Юлія Якаўлеўна не ведала, якая патрэба была ў Бураўкіна ўва мне...

Генадзь Мікалаевіч быў у ложку. Сілы відавочна пакідалі яго — ён не мог уставаць і гаварыў слабым голасам. Хвароба не шкадавала яго, было зразумела — ідзе адлік апошніх дзён. Пра гэта ён сам казаў адразу і без аніякіх умоўнасцей.


**Кастрычнік 2004 г.** Фота Сяргея Шапрана

> Да тых, хто застанецца, у мяне адна вялікая просьба: берагчы Беларусь, прадаўжаць тое, што зрабілі і недарабілі яе сыны лепшыя. І спадзявацца, што ўсе мы — і тыя, што былі, і тыя, што будуць, і тыя, што ёсць, — усе мы вечныя. Вечныя ў нашай мове, вечныя ў нашай гісторыі, вечныя ў беларускай зямлі, у беларускім слове.
>
> **Генадзь Бураўкін**
> **20 мая 2014 г.**

## Апошнія зямныя справы

Гаварыў, што адчувае, што ў хуткім часе пойдзе, таму ў яго некалькі просьбаў да мяне. Адна з іх: на пісьмовым стале ляжыць блакітны сшытак, у якім вершы апошніх гадоў. «Я вельмі прасіў бы, каб ты падрыхтаваў іх і зрабіў кнігу як мага хутчэй. Гэта самае дарагое, самае важнае, што ў мяне ёсць. Калі гэтая кніга будзе выдадзена, астатняе мне, даруй, не так важна, — сказаў Генадзь Мікалаевіч. — І хай гэта будзе не толькі чарговая мая кніга, а чарговая кніга ў бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў».

Праўда, пасля Бураўкін выказаў сумнеў — а ці будзе магчымасць выдаць кнігу? Я запэўніў, што падключу да гэтай справы Глеба Лабадзенку, і разам мы абавязкова нешта прыдумаем...

Яшчэ адна просьба была таксама нечаканай: каб я прыходзіў да яго штодня і задаваў любыя пытанні пад запіс. Ён неаднойчы пасля падкрэсліваў: «Я табе даю права задаваць любыя пытанні»...

Калі з інтэрв'ю ўсё было нібыта зразумела — Генадзь Мікалаевіч не паспеў напісаць мемуары (праўда, вялікі цыкл яго аповедаў прагучаў у кастрычніку-лістападзе 2012 года ў эфіры радыё «Рацыя») і цяпер, мусіць, хацеў хоць у такім выглядзе пакінуць свае ўспаміны, — дык з кнігай чаму менавіта да мяне? І знаходзіў толькі адзін адказ: на пачатку красавіка я быў у яго з кнігай Рыгора Барадуліна «У неба пехатою», якую мы паспелі выдаць да саракавін па дзядзьку Рыгору. Яно сталася магчымым дзякуючы падтрымцы бізнэсоўца і мецэната Паўла Бераговіча.

Бураўкін быў знаёмы з Бераговічам, і калі праз пару дзён я сказаў, што Павел гатовы ўсяляк садзейнічаць выданню і яго кнігі, Генадзь Мікалаевіч быў расчулены і, як падалося, крыху супакоіўся — значыцца, кніга сапраўды будзе. Тады ж сказаў добрыя словы на адрас Паўла: «Я проста шчаслівы, што і мяне таксама кранулiся сваім мяккім крылом яго ўвага, яго дабрыня. Дзякуй, Павел дарагі, дзякуй».

Зрэшты, яшчэ пра тую красавіцкую сустрэчу. Перад тым я быў у Бураўкіна месяц таму, ён быў вельмі слабы. І вось цяпер, у красавіку, відавочна пайшоў на папраўку, і таму ўвесь час быў у добрым настроі, жартаваў па сваёй заўсёднай звычцы, і доўга не адпускаў, нават да парога праводзіў, і ўсё гаварыў, гаварыў...

А пасур'ёзнеў толькі аднойчы — калі я запытаўся пра будучыя планы. Генадзь Мікалаевіч адказаў, што трэба дажыць да жніўня (у жніўні яго дзень нараджэння), а там, дадаў, пабачым. Але ўжо праз некалькі дзён стан яго здароўя раптоўна пагоршыўся, і ў выніку ён зноў апынуўся ў рэанімацыі...

Аднак Бог, мусіць, злітаваўся з яго і даў яшчэ крыху часу, каб паспець уладкаваць апошнія зямныя справы. І дапамагчы ў тым Генадзь Мікалаевіч нечакана паклікаў мяне...

Мы гаварылі пад запіс ужо ў той жа першы дзень, аднак я быў у разгубленасці, бо пра што пытацца ў чалавека, які вось-вось пойдзе? Якія пытанні істотныя, а на якія не варта губляць час? Бо сказаў жа неаднойчы Генадзь Мікалаевіч: «Усё роўна не паспееш задаць усе пытанні...» Зрэшты, і адказваў не так, як усе гады раней, — каратка, нярэдка аднаскладова. Ці ашчаджаў сілы, ці, што хутчэй, бярог час, які яму застаўся...

Што ж тычыцца кнігі, дык, маючы досвед выдання кнігі Барадуліна, я папрасіў Генадзя Мікалаевіча пратрымацца месяц. Памаўчаўшы, ён сказаў, што паспрабуе, аднак на наступны дзень папрасіў: «Пастарайся зрабіць кнігу за два тыдні». Але з нуля падрыхтаваць і выдаць кнігу за два тыдні здавалася справай немагчымай...

## «Нагаварыцца з зоркамі»

Што тычыцца вершаў, дык насамрэч яны былі не ў адным, а ў двух сшытках. Уверсе кожнага былі пазначаны даты: «IX.2009—X.2011 г.», «X.2011 г. —». Другі сшытак быў спісаны толькі напалову. Не самы разборлівы почырк, да таго ж запісы зроблены алоўкам — Бураўкін усё жыццё пісаў вершы алоўкам. Шмат часу патрабавала расчытванне вершаў, і ўжо праз пару дзён я папрасіў дапамагчы Юлію Якаўлеўну, што, трэба казаць, значна паскорыла працу.

Да таго ж высветлілася, што хоць Генадзь Мікалаевіч і казаў, што вершы не друкаваліся (мусіць, проста забыўся), аднак у сапраўднасці яны часткова з'яўляліся на старонках «Дзеяслова» і «Літаратурнай Беларусі»; вершы за 2009 год увайшлі ў кнігу «Лісты да запатрабавання».

Калі ж 25 мая да Бураўкіна завітаў Уладзімір Някляеў, які ў той дзень прыехаў з Украіны, высветлілася, што і ён даволі хутка расчытвае почырк сябра. І таму тры дні запар па вечарах, да самай ночы, мы сядзелі з ім над Бураўкінскімі сшыткамі.

Някляеў жа стаў і рэдактарам гэтай кнігі. Хоць першапачаткова рэдактарам Генадзь Мікалаевіч папрасіў быць Міхасю Скоблу, бо, як казаў, Міхась — вялікі майстар у складанні і рэдагаванні кніг. Але Скобла цяпер таксама быў на Украіне, і Бураўкін не мог дачакацца вяртання абодвух: «Калі вернецца Міхась?.. Калі вернецца Някляеў?» Міхась прыехаў 23-га, у той жа дзень мы былі ў Генадзя Мікалаевіча. Тады ж ён нарэшце вызначыўся з назвай кнігі — «Нагаварыцца з зоркамі». Гэта былі словы з яго верша, які быў напісаны восенню 2011 года на лецішчы ў Крыжоўцы:

*...Шчасліва пастарайцеся змагчы*
*Наслухацца бацькоўскіх запаветаў,*
*Нагаварыцца з зоркамі ўначы*
*І наглытацца баравога ветру...*

## Тры галоўныя справы жыцця

Між іншым, мы з Міхасём заўважылі Бураўкіну, што нават цяпер яму практычна няма пра што шкадаваць, бо жыццё пражытае ім недарэмна. «Не, не дарэмна, — пагадзіўся Генадзь Мікалаевіч. — Гэта я смела скажу, таму што тры рэчы, якія я зрабіў, робяць мне гонар: гэта тое, што я стварыў нацыянальнае Беларускае тэлебачанне; тое, што ўдзельнічаў у абароне Быкава; трэцяе — кангрэс за Незалежнасць».

Тут трэба патлумачыць, што пад абаронай Васіля Быкава Бураўкін меў на ўвазе гісторыю 1966 года, калі разам з Анатолем Вярцінскім напісаў ліст у ЦК КПБ — з патрабаваннем спыніць шальмаванне аўтара «Мёртвым не баліць»; подпісы пад тым лістом паставілі 53 беларускіх пісьменнікі. Што ж тычыцца кангрэса, дык меўся на ўвазе Усебеларускі з'езд 2000 года, на якім прысутнічала амаль паўтары тысячы дэлегатаў з усёй краіны і на якім быў прыняты Акт незалежнасці Беларусі. Бураўкін быў сустаршынёй з'езда — разам з Рыгорам Барадуліным, Радзімам Гарэцкім і Анатолем Грыцкевічам.

Зрэшты, мы з Міхасём прыгадалі яшчэ некалькі відавочных заслуг Генадзя Мікалаевіча: найперш яго «Калыханку», якая ўзгадавала не адно пакаленне

беларускіх дзетак, Бураўкінскую паэзію і, нарэшце, яго вялікую сям'ю (у Бураўкіных двое дзяцей і чацвёра ўнукаў).

Праўда, на гэта Генадзь Мікалаевіч жартам заўважыў: «Не вялікая — магла быць большая. Але выдатная сям'я, выдатная!» «Вы — адзін з нямногіх, хто маглі быць, ды не сталіся, а Вы, Генадзь Мікалаевіч, сталіся», — рэзюмавалі мы. «Так, гэта праўда», — пацвердзіў Бураўкін. І ўжо на развітанне сказаў Скоблу: «Ты застанешся маім чалавекам на зямлі».

Разам з тым Бураўкін хацеў, каб кнігу паглядзеў і Уладзімір Някляеў, і казаў пра гэта яшчэ падчас нашай першай сустрэчы: «Я прасіў Валодзю — ён гатоў быць складальнікам і рэдактарам. Але я ведаю рэальнасць, і ведаю Валодзю, таму спадзяюся на цябе…»

Тут, мусіць, трэба патлумачыць, што Генадзь Мікалаевіч меў на ўвазе занятасць Някляева, жыццё якога апошнім часам праходзіць пераважна ў паездках. Дарэчы будзе таксама прыгадаць, што адзін з вершаў, які быў напісаны яшчэ ў лістападзе 2010 года, у гэтыя свае апошнія дні (калі быць дакладным, дык 26 мая) Бураўкін прысвяціў свайму сябру:

*Паэты на пенсію не выходзяць,*
*Пакуль іх алоўкі радкі выводзяць,*

*Пакуль ім душу разрывае сумненне,*
*Пакуль іх на бой выклікае сумленне,*

*Пакуль ім жанчыны каханы сняцца,*
*Пакуль могуць вусны кілішка кранацца,*

*Пакуль яшчэ хочацца ў свеце суровым*
*Абнашчыцца вечным матуліным словам…*

*Паэтам не спіцца на панскім кіліме.*
*Яны не бываюць ніколі былымі.*

*Яны не старэюць,*
*Не паміраюць —*
*Яны, як высокія зоркі,*
*Згараюць…*

### «Дзякуй, хлопцы…»

…Я па-ранейшаму штодня прыходзіў да Генадзя Мікалаевіча, але нашы размовы станавіліся ўсё карацейшымі — сілы імкліва пакідалі яго. Было відавочна, што засталіся не тыдні, а лічаныя дні. І Бураўкін не тое, што прадчуваў, — ён выдатна гэта разумеў і, відаць, таму ў панядзелак, 26-га, замест прывітання нечакана папрасіў… сваю кнігу. — «Яна будзе толькі напрыканцы тыдня», — адказаў я, хоць, па шчырасці, і сам не надта верыў у тое. «Ты не паспееш, — цяжка і, мусіць, з дакорам, сказаў Бураўкін. — Я не дачакаюся…» І закрыў вочы.

Мне падалося, што дыханне яго спынілася, бо адзінае, што, мабыць, яшчэ трымала яго ў гэтым свеце, — гэта кніга, якую ён, як зразумеў цяпер, ужо дакладна не дачакаецца… Праз нейкі час Бураўкін адкрыў вочы. Я спрабаваў апраўдацца, але ён слабым голасам — ледзь чутно — казаў, што два тыдні, пра якія гаварыў раней, — гэта быў не мінімум, а максімум…

Я пайшоў ад яго ў поўнай разгубленасці. Заўтра абавязкова трэба прынесці яму кнігу, але як, якім чынам гэта зрабіць? Падрыхтавана толькі яе палова — другая не тое, што не звярстана, — яна яшчэ не ўся расчытана і набрана. Не даробленая вокладка. Ужо не кажучы пра тое, што на друк кнігі пойдзе некалькі дзён…

Я пазваніў у выдавецтва «Кнігазбор» Генадзю Вінярскому і запытаўся: ці магчыма тэрмінова зрабіць хоць адзін экземпляр — для Бураўкіна? Гэта было магчыма праз дзень-два, але толькі ў тым выпадку, калі заўтра будуць гатовыя вёрстка і вокладка…

У выніку да ночы ўжо ўсе вершы былі расчытаны, пад раніцу — набраны, апоўдні кніга была звярстана… Наогул кажучы, я шчыра ўдзячны ўсім тым, хто працаваў над гэтай кнігай, бо ўсе мы разам здзейснілі цуд, — Юлія Якаўлеўна з дачкой Святланай, якія дапамагалі расчытваць вершы, Уладзімір Някляеў, вярстальнік Канстанцін Лісецкі, карэктар Наталля Ведрыч, мастак Зміцер Гупянец, выдавец Генадзь Вінярскі, а таксама Павел Бераговіч, Глеб Лабадзенка і тыя супрацоўнікі тыпаграфіі, якія вечарам наступнага дня ўручную сабралі адзіны экземпляр кнігі «Нагаварыцца з зоркамі».

Мы былі ў Генадзя Мікалаевіча ўжо 27-га ўвечары — з яго новай кнігай. Бураўкін паднёс яе да вуснаў, ён практычна нічога не гаварыў, бо не было на тое сіл, і толькі падзякаваў тым, хто спрычыніўся да гэтага выдання: «Дзякуй, хлопцы, дзякуй вам, за ўсё дзякуй».

Мне падалося, што спачатку ён і сам не мог паверыць у тое, што апошняе і галоўнае яго жаданне нарэшце здзейснена. А потым, мусіць, быў проста ўсцешаны тым, што гэта адбылося.

Уладзімір Някляеў пасля напісаў: «За тры дні да ягонай смерці мы прынеслі яму ягоную кнігу вершаў. Апошнюю. Ён проста прагнуў яе ўбачыць, бо разумеў, ведаў, што яна — развітальная… І трэба было бачыць ягоны твар, калі ён узяў кнігу ў рукі. Гэта было не шчасце ці радасць, цяжка шчасцю ці радасці вывіцца на мяжы жыцця і смерці, — гэта было Вялікае Супакаенне. Што жыццё пражыў як належыць. Зрабіў у ім, што мог. Так сыходзяць паэты».

Развітваючыся з Бураўкіным у той вечар, я сказаў «да пабачэння», маючы на ўвазе сустрэчу ці яшчэ тут, ці ўжо там — мы неаднойчы гаварылі ў тыя дні пра будучую сустрэчу, якая некалі абавязкова адбудзецца. Я яшчэ заўважыў: «Вы, Генадзь Мікалаевіч, разам з дзядзькам Рыгорам адлупцуе мяне, калі пасля зраблю нешта не так». І Бураўкін, усміхнуўшыся, пацвердзіў, што менавіта так яно і будзе…

### Замест эпілога

Зрэшты, варта сказаць яшчэ пра адну рэч: бываючы штодня ў Генадзя Мікалаевіча гэтыя апошнія яго паўтара тыдня, я не мог не заўважыць, як мужна паводзіў ён сябе, пра што аднойчы і сказаў: «Памятаеце, Генадзь Мікалаевіч, мы былі разам з Вамі і Рыгорам Барадуліным у Васіля Быкава ў Бараўлянах, і Вы пасля сказалі, што Васіль Уладзіміравіч паводзіў сябе вельмі мужна. Дык павінен Вам сказаць, што і Вы таксама паводзіце сябе мужна і годна». Бураўкін адказаў: «Дзякуй, Сярожа. Ты са мной усе гэтыя цяжкія часіны мае, так што можаш бачыць, можаш рабіць высновы… Старайся, дарагі мой. Гэта апошняе, што я магу».

…А кнігу «Нагаварыцца з зоркамі», першы сігнальны экземпляр, якую Генадзь Мікалаевіч так чакаў (і, можа быць, думка пра яе і трымала яго апошнія дні, калі ён ужо не мог есці і ледзь гаварыў), родныя паклалі да яго ў труну.

На наступны пасля пахавання дзень Някляеў прапанаваў даць такую анатацыю: «Першы асобнік гэтай кнігі быў пахаваны разам з яе аўтарам, паэтам Генадзем Бураўкіным, а 15 гадзіне 31 мая 2014 года на Усходніх могілках Мінска. Звычайна лёс так заканчваецца, а ў гэтай кнігі так пачаўся лёс…»

Але мы ўсё ж вырашылі пакінуць тую анатацыю, якая і была ў тым першым, Бураўкінскім экземпляры. Дый сам паэт прасіў: «Рабі гэтую кнігу як чарговую маю кнігу, а не як пасмяротную. Пасмяротныя будуць пасля». І яны абавязкова будуць, дарагі Генадзь Мікалаевіч. Ну, а калі не, дык Вы ж пасля адлупцуеце мяне разам з дзядзькам Рыгорам — калі мы ўсе разам зноў яшчэ сустрэнемся.



**Тры сябра: Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін і Васіль Быкаў. Бараўляны, 17 чэрвеня 2003 г.** Фота Сяргея Шапрана



**Аўтограф апошняга верша Генадзя Бураўкіна**

## З кнігі «Нагаварыцца з зоркамі»

Генадзь БУРАЎКІН

***

***Памяці Васіля Быкава***

*Ідзе жыццё.*
*За годам год мінае.*
*Мяняецца пагода на зямлі…*
*Усё часцей цябе я ўспамінаю*
*У выцертым салдацкім шынялі.*

*І што б такое не было са мною,*
*Здаецца мне: і ў сонца, і ўначы*
*Сталіш ты моўчкі за маёй спіною,*
*Гатовы мне хоць нечым памагчы.*

*Абражаны, зняважаны, ранімы,*
*Без спадзяванняў тайных і без сіл*
*Ты кожны раз вяртаўся да Радзімы*
*І літасці, і ласкі не прасіў.*

*На ўсіх шляхах, пры жудасных адлівах,*
*Калі змывала саснякоў камлі,*
*Ты нёс свой крыж зацята і цярпліва,*
*Каб з ім упасці на сваёй зямлі.*

*Да памяці тваёй не прыліпае*
*Ні павуцінне звад, ні подлы час…*
*Нам так цябе сягоння не хапае,*
*Як не хапае і табе ўсіх нас…*

**11.X.2011 г., Крыжоўка**

***

*Няпраўда,*
*Што імгненна паміраюць*
*Бязгрэшныя ў намоленай цішы.*
*Анёлы смерці доўга*
*падбіраюць*
*Свой ключ да іх*
*асуджанай душы.*

*Даюць спярша спазнаць*
*людскія мукі,*
*Бяссілле праўды і адчай*
*трывог.*
*А потым ціха іх вядуць за рукі*
*Па той, апошняй*
*з іх зямных дарог.*

*З аблокаў даваляюць азірацца*
*На дзедаў крыж, на матчына вакно,*
*На хмельнае шчаслівае юнацтва*
*І на сяброў, што здрадзілі даўно.*

*З плячэй здымаюць іхні скарб*
*сабраны,*
*Сціраюць пыл, нажыты*
*пры жыцці, —*
*І ў райскі сад, што за высокай*
*брамай,*
*Толькі тады запросяць увайсці…*

**7.X.2011 г., Крыжоўка**




**Вокладка кнігі «Нагаварыцца з зоркамі»**

ЭЦЮД

# Мастак апантаны, самаахвярны

Арсень ЛІС

**«Прыйдзём і мы святлейшых дней, як скончым строіць дом», — пісаў Уладзіслаў Галубок у 1912 годзе ў вершы «Будучыня». У невялікім творы патрапіў даць яскравы сімвалічны вобраз беларускага Адраджэння, паэтычна ўзнавіць працу суайчыннікаў па адбудове гмаху беларускай культуры, уласнага Дома ўсіх беларусаў.**

Здолеў стварыць такі вобраз, бо і сам, пакліканы часам народнага абуджэння, быў руплівейшым на рыштаваннях Дома-Будучыні. Вершамі, надрукаванымі ў «Нашай Ніве», У. Галубок, сын мінскага рабочага-дэпоўца, пачынаў сваю літаратурную творчасць. А ўжо ў 1913 годзе музыказнавец-фалькларыст і выдавец у Пецярбургу Антон Грыневіч выпускае ў свет асобным зборнікам апавяданні У. Галубка, пазначаныя добрым веданнем народнага жыцця, псіхалогіі, беларускага слова.

Аднак не проза, хоць навеліст Галубок быў у ёй даскаsuccessfully налы (яшчэ не ўсё з яго спадчыны сабрана і належна ацэнена), вызначыла яго творчы шлях, мастакоўскае аблічча. У Галубку жыў прыроджаны акцёр і драматург. Як звярнуцца да беларуса са сцэны, каб будзіць яго дух, цягу да лепшага жыцця, прыклад даў Ігнат Буйніцкі. І Уладзіслаў Галубок ужо ў 1913 годзе далучаецца да «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі». Але царскія служакі сцерагуць кожны неказённы грамадскі крок.

Падбіваная чарнасоценцамі адміністрацыя забараніла дзейнасць «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі», а яго кіраўніка Фларыяна Ждановіча пастанавіла прыцягнуць да судовай адказнасці. Будаваць Дом, пра які марыў Галубок, не давалі.

Ажыць «Таварыства» здолела толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Уладзіслаў Галубок прыняў удзел у ім як акцёр, рэжысёр і драматург. А 15 жніўня 1920 года спектаклем «Суд» у рабочым клубе Мінска пачаў сваё жыццё тэатр пад загадам Галубка. Пазней яго назавуць Беларускі вандроўны, Трэці БДТ, проста тэатр Галубка. І яшчэ крыху па-бытавому, але не без інтымнага пачуцця — тэатрам Галубка з галубянятамі.

Вандроўнаму тэатру самім лёсам, здавалася, была наканавана высокая місія несці беларускае мастацкае слова ў самыя глухія куткі нашай Бацькаўшчыны. На сялянскіх фурманках, не раз проста несучы на сабе сціплы тэатральны рэквізіт, дабіраліся галубкоўцы туды, куды ніколі не заглядаў тэатр. Выступалі, дзе толькі можна было змайстраваць падмосткі.

Сам кіраўнік трупы маляваў дэкарацыі, памагаў грыміравацца. Часта прамаўляў перад спектаклем — расказваў пра маладую Беларускую рэспубліку, пра тэатр, літаратуру, пра слаўныя дзеі продкаў. Зачароўваў арганічным беларускім словам і складам. Ігралі спектакль. Найчасцей паводле п'ес, напісаных стваральнікам і кіраўніком тэатра: «Апошняе спатканне», «Плытагоны», «Ганка», «Бязвінная кроў», «Суд», «Пісаравы імяніны»… Уладзіслаў Галубок сваім душэўным агнём запальваў усіх — акцёраў і публіку, — і ў глухім мястэчку або ў акруговым цэнтры было сапраўднае свята.

«Тэатр прыехаў, Галубок прыехаў, беларускі тэатр», — перадавалася па шырокай ваколіцы. І галубкоўцы бачылі шчырую людскую ўдзячнасць, жывы водгалас на сваё мастацтва. І забываліся, мабыць, недаспаныя ночы, бездараж беларускіх шляхоў. За працай тэатра Галубка зычліва і зацікаўлена сачыла ўся культурная грамадскасць рэспублікі, асабліва творчая інтэлігенцыя. І ўрад маладой Савецкай Беларусі, які ў 20-я гады пачуваў сябе сапраўдным урадам, а не правінцыяльнай адміністрацыяй, умеў цаніць сваіх людзей. Уладзіславу Галубку — першаму сярод тэатральных дзеячаў — надаў ганаровае званне народнага артыста рэспублікі.

Са здымку, дарэчы, узятага з архіву акадэміка Г.І. Гарэцкага, паўстае Уладзіслаў Галубок у свой зорны час: урачысты, поўны годнасці і гордасці за сваё і наша мастацтва. Пэўна, такім і застаўся ён у памяці свайго пакалення і з'явіцца ва ўяўленні будучых суайчыннікаў, гэты высокаталенавіты, самаахвярны і прыгожы Чалавек.

Але поспехі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, росквіт духоўнасці ў Савецкай Беларусі былі бліскавічна кароткімі. Рэнесанс абярнуўся небывалай трагедыяй, калі было знішчана ўсё, пад корань.

К канцу 1920 гадоў дзяржаўны лад у вялізнай краіне, якая была падала надзею на годнае жыццё для мільёнаў людзей, адным чалавекам (сама сістэма такое дазваляла) паступова і ўраз быў ператвораны ў закончаны таталітарызм — рэжым з поўным ігнараваннем чалавечай асобы. Жыццё, духоўнае, рэгламентавалася, уніфікавалася, ніжэліравалася паводле адной жорсткай схемы.

Тэатр Галубка, як і кожны культурна-мастацкі асяродак, трапіў пад татальны кантроль адміністрацыйна-каманднай сістэмы і, нарэшце, зусім быў разгромлены. Яго кіраўнік, што па-апостальску служыў ісціне, мастацтву, беларускай ідэі, аб'яўлены ворагам народа. Уладзіслаў Галубок знік у апраметнай тэрору, што дасягнуў свайго апагею ў 1937–1938 гадах.

Трагічна адышоў з жыцця, як і чараўнік украінскай тэатральнай сцэны Лесь Курбас, рэфарматар рускага тэатра Усевалад Меерхольд, грузінскага — Сандро Ахмятэлі… Загінуў, як тысячы паэтаў, вучоных, мастакоў, дзеячаў культуры і асветы, як мільёны простых савецкіх людзей.

Трагедыя гэта, як і ўвесь вопыт псеўдасацыялізму, патрабуюць усебаковага грамадскага асэнсавання. Перад усім дзеля выбару будучыні.

Сёння ўжо штосьці рэстаўравана з гісторыі тэатра Галубка, вернуты народу сцэнічныя творы пісьменніка і рэжысёра, выйшла кніга ўспамінаў. Але калі надыдзе час пісаць спакойную, аб'ектыўную гісторыю беларускага тэатра, важна не прапусціць на яе старонках, створанага самабытным тэатрам Галубка, нечага існага — галубкоўскай апантанасці і ахвярнасці.



Уладзіслаў Галубок. Фотаздымак друкуецца ўпершыню. Яго перадала Арсеню Лісу Людвіка Антонаўна Войцікава



Гэты фотапартрэт Уладзіслаў Галубок надпісаў на памяць Аркадзю Смолічу. Фотаздымак перадала Арсеню Лісу жонка Аркадзя Смоліча





Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 743

Падпісана да друку 6.06.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.